## Уладзімір ГАРКУН:

# «РЭФОРМЫ ІДУЦЬ. АЛЕ ПАЛІТЫКА ЎРАДА ЗАКЛЮЧАЕЦЦА Ў ТЫМ, КАБ НЕ РАСКІДАЦЬ КАЛГАСЫ».

**Віцэ-прэм'ер Кабінета Міністраў Уладзімір Гіляравіч Гаркун адказвае ў беларускім урадзе за вырашэнне праблем аграпрамысловага комплексу, за ўсе абсягі шматграннай дзейнасці ў сферы сельскагаспадарчай вытворчасці. А сёння, як вядома, тут клопатаў хапае. Засведчыла гэта і «прамая лінія», якую віцэ-прэм'ер Кабінета Міністраў правёў з чытачамі «Звязды». Дыялог Уладзіміра Гаркуна доўжыўся амаль дзве гадзіны. Ніводнае з пытанняў, дасланых па пошце, не засталося без адказу. Прапануем увазе чытачоў наш запіс «прамой лініі».**



**— Хацелася б ведаць, чаму дзяржава такая няўважлівая да прыватнай формы ўласнасці ў сельскай гаспадарцы?**

— На гэта, скажам так, філасофскае пытанне я не менш па-філасофску адкажу. Тэарэтычна я ведаю падаплёку вашага пытання. Што такое калектыўнае і прыватнае? Калі б мы доўга дыскутавалі, то ўзгадалі б сусветны вопыт калектыўных і прыватных гаспадарак. Але не трэба забывацца на нашу гісторыю, наш менталітэт, нашы магчымасці. Таму ніхто — урад у прыватнасці, не тармозіць працэс стварэння прыватных сялянскіх гаспадарак. Але, на вялікі жаль, пракаменцірую сітуацыю такім прыкладам. Калі мы ўводзілі прыватную ўласнасць для жыхароў рэспублікі, то некаторыя думалі, і я думаў таксама, што, маўляў, бойка пачнецца — бо ўсе пачнуць імгненна прыватызаваць зямлю. На сённяшні дзень прыватызавалі 15 працэнтаў зямлі. Вось гэтым прыкладам і спяшаюся падкрэсліць, што жадаючых працаваць на зямлі прыватнікаў не так ужо шмат.

Адсюль і раблю наступную выснову. Формы ўласнасці, ці формы арганізацыі — калектыўная і прыватная — павінны мець у рэспубліцы права на жыццё. А выбіраць абавязаны самі калектывы. Не след толькі рабіць дэкалектывізацыю ў адну ноч. Вось такое маё перакананне.

**— У нашай гаспадарцы нічога не робяць для прыватнага сектара. Немагчыма ўзяць у калгасе тэхніку. Немагчыма вырашыць ніякае пытанне...**

— Перакананы, што і ў вашай гаспадарцы, і ўвогуле ўсё не зусім так. Хоць пытанне ваша і падштурхоўвае да доўгага адказу, аднак паспрабую лаканічна выкласці наступнае. Першае. Не трэба безапеляцыйна сцвярджаць, што прыватны сектар знаходзіцца без увагі. Прысядзібныя ўчасткі, на якіх, вядома ж, нямала вырошчваецца прадукцыі, без дапамогі калгасаў гэтулькі не зрабілі б. І гэта відавочна. Ёсць жа двайны рахунак справы. Безумоўна, мы разглядаем пытанне і з такога пункту гледжання, што недастаткова аказваем дапамогу прыватнаму сектару. Гэта ўжо другі бок медаля. І ён пераконвае нас у тым, што трэба і мінеральныя ўгнаенні завезці на месцы, для продажу. І закупку прадукцыі неабходна арганізаваць, каб людзі маглі лішкі рэалізоўваць. Так што пытаннем мы займаемся, але, магчыма, не зусім дастаткова.

А наконт арэнды тэхнікі — і асабліва гэта актуальна для фермераў, — лічу, што пытанне павінна вырашацца. І, вядома ж, вырашацца на месцы. Думаю, што заканадаўчы рэгулюючы акт тут зусім не патрэбен.

**— ЛАПКО Мікалай Фёдаравіч. У мяне ёсць ільготы. Вялікі працоўны стаж. Сабраў усе паперы, згодна з якімі маю права на льготную пенсію. Усе марудзяць. Пенсію не афармляюць. Не ведаю, што і рабіць.**

— У Кабінеце Міністраў ёсць прыёмныя дні. Прыходзьце, калі ласка, на прыём. Ёсць у нас і работнікі, якія адказваюць за сацыяльную сферу. Прыходзьце, будзем разглядаць пытанне. Хіба ў дадзеным выпадку па тэлефоне можна дакапацца да ісціны? Запісацца на прыём нескладана.

**— Святлана Аляксандраўна Паўлюкевіч. Скажыце, калі ласка, ці ёсць такія гаспадаркі, куды б зараз можна было паехаць з горада працаваць? Але пры ўмове, што там прадаставяць жыллё.**

— Безумоўна, такія гаспадаркі ёсць. Але тут трэба звярнуць увагу і на наступнае. Вы пытаецеся пра жыллё, а я ў вас хачу запытацца наступнае: а вы згодны пайсці даяркай?

**— Калі я ўжо запыталася, то, пэўна ж, задумваюся ўсур'ёз пра свой выбар.**

— Думаю, што не пакрыўдзіў вас такім пытаннем. Калі жаданне ёсць, то жыллё мы вам дадзім. Але трэба і прафесію выбіраць патрэбную гаспадарцы — даяркі, жывёлавода. Так што гаспадарку такую можна падабраць.

**— Уладзімір Гіляравіч, турбуе пенсіянер Алтухоў, з Мінска. Ці не здаецца вам, што ў многіх гаспадарках цяжкае становішча склалася з-за ўласнай непаваротлівасці, з-за нежадання варушыцца?**

— Вы маеце рацыю. Калі сёння гаварыць пра рынак (а да яго, сапраўднага, яшчэ ой як далёка), то трэба навучыцца зарабляць грошы. Вось вам прыклад. Людзі спакойненька бяруць з Камароўкі бульбу па цане 4 тысячы, а то і болей за 1 кг. Калі б прывёз калгас і пачаў прадаваць на 1 тысячу танней — размялі б у адзін момант. Але ж дзе тая бульба? Дзе яе лішкі? Другое. Усім зразумела, што калгасы патрабуюць рэфарміравання. І многае тут залежыць ад змены псіхалогіі калгасніка. Трэба прыйсці да таго, каб людзі працавалі на зацікаўленні, а не па адным толькі абавязку, які часам мяжуе з прымусам.

Мы прыйшлі да такой сітуацыі, калі грошы, прабачце, трэба мазгамі зарабляць. Вядома, віна дзяржавы вельмі вялікая ў неразумным цэнаўтварэнні. Але ж сёння ўжо шмат зроблена для выпраўлення сітуацыі. Але давайце пакладзём руку на сэрца. Пры ўсіх сённяшніх стогнах, плачах лепей працаваць мы не сталі. І гэта ўсеагульная бяда.

**— Максімовіч вас турбуе. Сам рабочы. Штотыдзень бываю ў вёсцы. Дзіўлюся, як выжываюць людзі — мае родныя, блізкія. Не ведаю дакладна, але ўжо некалькі месяцаў яны не атрымліваюць зарплаты. Такая сітуацыя не толькі ў маёй роднай вёсцы, што ў Узденскім раёне...**

— На 1 студзеня мы павінны былі па зарплаце недзе 700 мільярдаў рублёў. На 9 лютага — недзе 250 мільярдаў. 150 — з іх — пагашаецца. Але ж 100 мільярдаў — «непад'ёмныя», пад іх няма прадукцыі. Ёсць гаспадаркі, якія атрымалі валавой прадукцыі ў паўтара раза меней, чым налічана зарплаты. І патрабуюць жа зарплаты. А іншы будзе цягнуцца з апошніх сіл, разлічвацца, каб толькі за заробленае атрымліваць. Другі ж побач толькі і налічвае зарплату.

**— У мяне да вас наступнае пытанне. Калі ўжо скончыцца штодзённае галапіраванне цэн на прадукты харчавання?**

— Па-першае, я з вамі не згодзен. Далёка не кожны дзень адбываецца галапіраванне цэн. Нашы цэны на прадукты харчавання, калі браць суседнія краіны, адпавядаюць мінімальнаму спажывецкаму бюджэту грамадзян. Інакш кажучы, калі так можна дакладней акрэсліць, у нас цэны на прадукты харчавання знаходзяцца пад кантролем.

**— СЯРГЕЕЎ Іван Гаўрылавіч. г. Магілёў. Ці ідуць, на ваш погляд, Уладзімір Гіляравіч, рэформы ў сельскай гаспадарцы? Калі вы лічыце, што не, то калі яны ўсё ж пачнуцца?**

— Рэформы ідуць. І калі хто ведае становішча спраў у аграпрамысловым комплексе, то ён гэта, безумоўна, бачыць. Іншая справа, якія ёсць рэформы, якія хочам мы і як хто ўспрымае саму неабходнасць змен. Калі хто хоча, каб мы ішлі па літоўскім шляху, — то гэта адна справа. Мы ж выбралі іншы накірунак — маруднага, павольнага рэфарміравання. Пачалі са змены характару грашовых адносінаў, з паступовага рэфарміравання ўласнасці. Нагадаю, што 15 працэнтаў зямельных угоддзяў з'яўляюцца прыватнымі. Значна змянілі цэнаўтварэнне. І сёння ўжо па асобных цэнах сельскагаспадарчая прадукцыя наблізілася да сусветнага ўзроўню. І трэцяе, што вельмі важна, — ідзе аб'яднанне вытворцаў, перапрацоўшчыкаў і сістэмы гандлю. Але ж ёсць і вельмі важнае чацвёртае сведчанне рэформаў. Людзі пачынаюць разумець, як зарабляць грошы.

Калі казаць пра гэты год, то, безумоўна, рэформы будуць больш актыўнымі. Найперш у плане акцыяніравання, у плане аб'яднання перапрацоўшчыкаў сыравіны. Далей будуць ісці змены формы ўласнасці на зямлю. А падсумоўваючы ўсё гэта, хацеў бы яшчэ і наступным чынам адказаць. Не трэба думаць, што якое б там ні было рэфарміраванне дасць палёгку ў працы. Меней працуючы — большы плён не атрымаеш. Рэформы ў сельскай гаспадарцы, у сферы зямельных адносінаў прывядуць да большай абароненасці з боку дзяржавы, да большай свабоды. Але ж пры рэформах давядзецца працаваць больш інтэнсіўна.

**— Працаўнікі калгаса «Зара» Вілейскага раёна. Уладзімір Гіляравіч, са жніўня не атрымліваем зарплату. Можа, прышляце каго, аб у нас праверылі, што робіцца ў калгасе. Знялі ў студзені старшыню. Ён жа дзесяць гадоў прабыў кіраўніком. Апошнім часам ніводнага сходу не правёў... Як жыць без зарплаты, як працаваць без парадку?**

**Катэдж той старшыня пабудаваў, зараз збіраецца прадаваць за 50 тысяч долараў. Гараж такі ў яго, што нам і хату такую не збудаваць. Прышліце каго, каб усё праверылі. Вельмі просім вас.**

— Праверыць — праверым. У мяне ў галаве не ўкладваецца наконт зарплаты. Усё, што вы гаворыце, мяне не толькі здзіўляе, але і абурае страшэнна. Абавязкова разбяромся з гэтым фактам. Гэта — першае. Я абяцаю. Разбяромся і па зарплаце. Але ж, зразумейце, што зарплату трэба плаціць за прадукцыю. Калі вам нехта вінаваты за прададзеную прадукцыю — будзе прасцей, можна спагнаць даўгі. Але мне думаецца, калі такое ў вас творыцца, то гэта такая гаспадарка, што няма і асаблівай прадукцыі.

**— Якая тут прадукцыя? Нават трактары разукамплектаваныя, што ўжо пра астатняе гаварыць...**

— Куды ж раён глядзеў?

**— Раён? Ніхто ў нас не пытаўся, мы не галасавалі. Старшыню прызначылі — і ўсё.**

— А зараз хоць талковага старшыню абралі?

**— Маладога, добрага. Стараецца. Але што ж, калі яго ранейшыя даўгі душаць. Дзе што заробіць — дык трэба ж аддаваць.**

— Добра. Я абяцаю разабрацца, хаця пытанне вельмі няпростае.

**— Дапамажыце, калі ласка, Уладзімір Гіляравіч. Дзякуй вам.**

**— Алё! «Прамая лінія»? Уладзімір Гіляравіч, скажыце, як зараз гатовы да веснавых работ?**

— А з кім я, прабачце, размаўляю?

**— Пясецкі Генадзь Леанідавіч.**

— А кім вы працуеце?

**— Рабочым.**

— Якое становішча ў сельскай гаспадарцы і як будзе праводзіцца пасяўная? Няпростае становішча. І ў першую чаргу, на вялікі жаль, зніжаюцца тэмпы вытворчасці. І аб'ектыўныя ёсць на тое прычыны. Два гады — засуха. Няпростая, вельмі няпростая зіма. А па-другое, тая сітуацыя безгаспадарчасці, бескантрольнасці, што панавала гады з чатыры, таксама ўплывае на сітуацыю. Непарытэт цэн зноў жа, калі прамысловая прадукцыя была ў некалькі разоў даражэй за сельскагаспадарчую. Гэта прывяло да вялізных даўгоў. За мінулы год мы паспрабавалі выраўнаваць цэны, хаця даецца гэта няпроста.

**— А выйсце будзе з гэтага цёмнага тунеля?**

— Выхад няпросты. І галоўнае — як найлепей працаваць. Калі ўсе спадзяюцца, што за кошт дзяржавы знойдзем грошы на пасяўную, на мінеральныя ўгнаенні, на зарплату, то з гэтай нагоды вось што скажу: калі б мы нават знайшлі грошы, то паколькі яны незаробленыя, яны ніколі не дадуць эфекту. Такім грашам цаны не ведаюць. Будучы на сённяшняй сваёй пасадзе, я пераканаўся, што калі даеш грошы ў якасці безвзваротнага крэдыту, то іх не вельмі граматна лічаць, не зусім, далёка не зусім разумна распараджаюцца імі.

А выйсце?.. Выйсце будзе. І пасеем, і з прадуктамі харчавання насельніцтва будзе.

**— Можа лепей, Уладзімір Гіляравіч, у суседзяў павучыцца? У Расіі ці не ўсе прадукты імпартныя...**

— У нас сельскагаспадарчых прадуктаў сваёй вытворчасці недзе дзевяноста пяць працэнтаў. Імпарт?.. У разумных рамках ён магчымы.

**— Відаць, многа ў агульную сельскагаспадарчую скарбонку дае прыватны сектар?**

— І гэта нармальна, калі прыватны сектар дае бульбу, агародніну. Калі малако ёсць у прыватным сектары. На яго — прыватніка — дзяржава і будзе рабіць стаўку. Але палітыка гэтага, сённяшняга, урада заключаецца ў тым, каб не раскідаць калгасы. Хаця тут і ёсць шмат спрэчных момантаў. Вось мой адказ на ваша пытанне...

**— Дзякуй. Будзе, відаць, добра...**

— Я не сказаў, што будзе добра. Наадварот — складана, цяжка будзе. Але пасеем.

**— Вас турбуюць з Мікуліч Дзяржынскага раёна, Марыя Дзмітрыеўна Козел.**

— Добры дзень. Я слухаю, гэта Гаркун...

**— У нас прапала вада з калодзежаў. Куды ні звярталіся — усе маўчаць. Спадзяёмся на вас. Вы наш былы старшыня калгаса. Мы ганарымся вамі, Уладзімір Гіляравіч.**

— Дзякуй, што не лаеце.

**Усе — старыя, пажылыя жанчыны так ужо далёка ходзяць па ваду, што сіл няма. Гіляравіч, міленькі, дапамажыце...**

Не даю клятву, але паспрабую вырашыць. Прывітанне ўсім Мікулічам! Здароўя вам, усяго самага добрага!

**— Дубровенскі раён. Фермер Мікалай Іванавіч. У мяне такое пытанне. Фермерам не выдзяляюць мінеральных ўгнаенняў. Сказалі, што міністэрства не ўзяло нас у разлік...**

— Вам таксама, як і калгасам, павінны выдзяляць угнаенні. Магчыма, проста адбылася памылка. Вам павінны выдзяляць... Мы абавязкова разбяромся.

**— Нам гавораць, што, маўляў, мы не здаём мяса...**

— Гэта не мае значэння. Усё роўна ж вы прадаяце мяса ў рэспубліцы.

**— І другое пытанне. У калгасах і саўгасах шмат пустых памяшканняў. Фермеры ж вымушаны будавацца. Ці нельга, каб нам далі ў арэнду гэтыя памяшканні? Мы б трымалі там жывёлу...**

— А колькі ў вас жывёлы? І якой?

**— У мяне пакуль няма. Прычына — адсутнасць памяшканняў.**

— Зыходзячы са здаровай логікі, вядома ж, вам павінны прадаставіць, перадаць у арэнду. Тым болей, што вы будзеце і за захаванасцю будынка сачыць. Іначай яго праз год расцягнуць. Але і я хачу спытаць вас: а з гэтым клопатам вы ў райвыканком звярталіся?

**— Так, звярталіся. Але пакуль не вырашаецца пытанне... Вось каб быў загад з верху.**

— Не, так не пойдзе. Калі я вам дам указанне як фермеру, што вы зробіце? Вы яго станоўча ўспрымеце?

**— Вядома, буду выконваць.**

— А калі яно вам не спадабаецца? Як я магу адсюль даваць загад кожнаму калгасу, каму ў арэнду здаваць, а каму не здаваць? Пытанні павінны, безумоўна, вырашацца на месцы. Але я не ўхіляюся ад прамога адказу. Мне здаецца, што вы правільна, лагічна паставілі праблему. Я вам не прадаў бы памяшкання, але перадаў бы ў арэнду.

**— І трэцяе пытанне. Якія ёсць нарматыўныя дакументы па здачы фермерскімі гаспадаркамі прадукцыі дзяржаве?**

— Ніякіх.

**— Летась нам, фермерам, давялі план — на 200 гектараў пашы здаць 500 тон збожжа. І гэта больш чым для гаспадарак.**

— Цікавае пытанне вы задалі. Ніякіх планаў па фермерскіх гаспадарках не існуе. Я паспрабую ўнікнуць у гэта пытанне. Але не бачу тут вялікай трагедыі. Па-першае, мы нікому не плацілі за звышпланавую прадукцыю. І крыўды тут не павінна быць. Калі з вамі разлічваліся ў сярэднім па 650 тысяч за тону збожжа, то ў канцы года мы думалі, ці звышпланава плаціць вам, ці даплаціць за ўсё збожжа. І дабавілі за кожную тону па 60 тысяч. Дарэчы, усім аднолькава. У грашовым вымярэнні і атрымліваецца: чым больш вы рэалізавалі прадукцыі — тым больш атрымалі грошай. Так што дужа не крыўдуйце, што і да вас з патрабаваннямі нейкага плана звярнуліся. Хаця маральна, псіхалагічна — я вас разумею.

**(Заканчэнне будзе).**

## МІТЫНГ У АБАРОНУ КАНСТЫТУЦЫІ

**12 сакавіка ў Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася чарговая сустрэча з журналістамі ініцыятараў стварэння Грамадскага руху ў абарону Канстытуцыі (ГРАК), у які зараз уваходзяць ужо 15 грамадскіх арганізацый, у тым ліку 12 палітычных партый. Ядро ГРАКа складаюць Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларускі народны фронт, Усебеларускі клуб выбаршчыкаў, Свабодны прафсаюз.**

Нагодай для прэс-канферэнцыі паслужыў прымеркаваны на 15 сакавіка — Дня Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь — мітынг, які адбудзецца ў Мінску на плошчы Парыжскай Камуны, што ля тэатра оперы і балета, а 11 гадзіне. Арганізатары мітынгу выходзяць на яго з лозунгам «Абаронім Канстытуцыю — абаронім сябе» і заклікаюць грамадзян падтрымаць акцыю, прыняўшы ў ёй удзел.

Гэтае мерапрыемства, дарэчы, будзе першай масавай акцыяй Грамадскага аб'яднання ў абарону Канстытуцыі. Хоць прадстаўнікі розных партый і гаварылі пра праблемы, якія найбольш блізкія ім, кожны, тым не менш, выказваў занепакоенасць станам канстытуцыйнай законнасці ў краіне.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## «Я ДАСТАЮ З ШЫРОКІХ ШТАНІН...»

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ва ўпраўленні пашпартна-візавай службы МУС Беларусі, магчыма ўжо з чэрвеня гэтага года грамадзянам Беларусі пачнуць выдаваць агульнаграмадзянскія пашпарты з новай сімволікай.**

Выдача пашпартоў новага ўзору пачнецца адначасова па ўсёй рэспубліцы. Яны будуць адначасова з'яўляцца і дакументам, які засведчвае асобу грамадзяніна Рэспублікі Беларусь за мяжой. Таксама распрацаваны ўзор дыпламатычнага пашпарта з новай сімволікай, які хутка пачнуць выпускаць. На сённяшні дзень у насельніцтва знаходзіцца больш як 100 тысяч беларускіх пашпартоў з выявай герба «Пагоня», якія, дарэчы, працягваюць выдаваць жыхарам сталіцы і вобласці, а таксама «старыя» савецкія пашпарты.

**Сяргей ПРОТАС.**

## ПА ЗУБРАХ СТРАЛЯЛІ ВАЙСКОЎЦЫ?

**Як ужо паведамляла «Звязда», у сярэдзіне студзеня на тэрыторыі Зембінскага лясніцтва (Барысаўскі лясгас) бракан'ерамі былі забіты адразу два зубры — самкі 7-8 гадоў.**

Выпадак, нагадаем, даволі неардынарны, паколькі раней ад рук злачынцаў лясныя прыгажуны гінулі толькі па аднаму. Незвычайнасць гэтай гісторыі надаў і факт знаходжання ў тушы аднаго з волатаў беларускіх лясоў кулі — як меркавалася, ад армейскага аўтамата Калашнікава. Была ўзбуджана крымінальная справа, а куля накіравана ў Мінск па крыміналагічную экспертызу.

Як стала вядома карэспандэнту газеты, яна пацвердзіла, што куля сапраўды была выпушчана з АК. Зразумела, тайна следства не дазваляе зараз больш падрабязна гаварыць пра дэталі гэтага злачынства. Але кампетэнтныя органы не выключаюць, што зубры маглі быць забіты вайскоўцамі. Зрэшты, якой толькі зброі няма зараз на руках і ў насельніцтва...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НАДВОР`Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, па паўднёва-заходняй палавіне пройдзе невялікі снег. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне і Гомелі — 0—2 градусы марозу, Брэсце, Магілёве і Віцебску — каля нуля.

У наступныя двое сутак захаваецца пераменная воблачнасць. 15-га ўначы — на большай частцы тэрыторыі, удзень — па поўначы пройдзе снег; 16-га — пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы — 5—10 градусаў марозу, удзень — плюс 2 — мінус 3.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 14 САКАВІКА

Надвор'е будзе вызначацца перыферыяй антыцыклону. Чакаецца паніжэнне атмасфернага ціску і ўтрыманне кіслароду ў паветры. 14 сакавіка — неспрыяльны дзень па геафізічных фактарах. У такіх умовах павялічваецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых з сардэчна-сасудзістай паталогіяй, захворваннямі дыхальнай сістэмы і страўнікава-кішачнага тракта.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца абмежаваць фізічную актыўнасць, часцей праветрываць памяшканні, прытрымлівацца дыеты, строга прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, уключаючы заспакаяльныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Еўдакіі, Нестара і Трывімія, Антаніны.**

**К. Мацільды, Льва.**



# КАНСТЫТУЦЫЯ — ПАДМУРАК...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Спытаць бы сёння ў стваральнікаў гэтага артыкула: няўжо не бачылі, запісваючы яго ў Канстытуцыю, якім небяспечным падводным рыфам можа стаць гэты сказ для карабля маладой беларускай дзяржавы? Якую вялікую спакусу ўяўляе ён для асобных палітыкаў?

Канстытуцыі, як правіла, пішуцца на стагоддзі — але ў рэдкіх выпадках застаюцца нязменнымі і дзесятак гадоў. І ў гэтым нельга бачыць адны толькі адмоўныя бакі, бо хуткаплыннае жыццё змяняе і людзей, і дзяржаву. Практыка выяўляе хібы, якія цяжка было разглядзець тэарэтыкам юрыспрудэнцыі.

Аднак ёсць у любой Канстытуцыі фундаментальныя, асноватворныя палажэнні, стрыжань гэтага акта, які павінен заставацца нязменным у дзяржаве, што аб'явіла сябе роўнай сярод роўных у супольнасці дэмакратычных дзяржаў свету.

Гэты стрыжань — суверэнітэт краіны і дэмакратычныя свабоды грамадзян. Якія б спекуляцыі сёння ні гучалі пра нібыта паўнацэнны суверэнітэт Беларусі ў бытнасць СССР, незалежнасць краіны — паняцце вельмі канкрэтнае. Вызначаюць яго не герб, не сцяг і не гімн, якія сапраўды мела БССР, а права краіны самастойна, без аглядак і ўзгадненняў з кім бы там ні было вызначаць уласны лёс, гаспадарыць на ўласнай зямлі, распараджацца ўласнай маёмасцю. Толькі тады сусветная супольнасць прызнае дзяржаву раўнапраўным суб'ектам міжнароднага права.

Сёння ўсё гэта ў Беларусі ёсць. Гэты статус дзяржавы замацаваны ў Канстытуцыі 1994 года. У ёй ні пра якое дэлегаванне правоў ніякім наддзяржаўным органам не сказана.

Канстытуцыя Беларусі мае патрэбу ў абароне, павазе і падтрымцы. На жаль, у грамадскай свядомасці пакуль не сфарміравана ўсведамленне таго, што менавіта непарушнасць закона стварае бяспеку кожнай канкрэтнай асобе, кожнай сям'і, кожнаму дому. Дзеля гэтай упэўненасці і стабільнасці беларускі народ ужо не раз цярпеў і пакутаваў. І, магчыма, як ніякі іншы, ён варты таго, каб незалежна ад суседзяў — годна, дастойна і заможна — гаспадарыць ва ўласным доме, абароненым уласнай Канстытуцыяй.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# У ДЭПУТАЦТВЕ АДМОЎЛЕНА

**На апошнім пасяджэнні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, якое адбылося 11 сакавіка, быў вынесены канчатковы вердыкт скаргам і заявам, якія паступілі пасля паўторных выбараў.**

Нагадаем, што свае правы на дэпутацкі мандат па выніках выбараў у Вярхоўны Савет у лістападзе-снежні мінулага года аспрэчвалі чатыры чалавекі: В.Голубеў (232-я выбарчая акруга), А.Казловіч (245-я выбарчая акруга), А.Гарбуноў (61-я выбарчая акруга) і В.Драко (230-я выбарчая акруга). У ходзе разгляду заяў Цэнтрвыбарком разам з акруговымі камісіямі вывучыў усе абставіны, звязаныя з вылучэннем, галасаваннем і падлікам галасоў за гэтых кандыдатаў. Так, выявілася, што ў тых акругах, дзе балаціраваліся спадары Голубеў і Казловіч, у выбарах прынялі ўдзел менш пяцідзесяці працэнтаў выбаршчыкаў, пры вылучэнні сп. Гарбунова быў парушаны парадак вылучэння ў кандыдаты, а ў акрузе, дзе балаціраваўся сп. Драко, акруговай камісіяй былі дапушчаны памылкі пры састаўленні спісаў. На аснове вынікаў праведзенай праверкі Цэнтрвыбарком адмовіў у рэгістрацыі дэпутатамі Вярхоўнага Савета ўсім чатыром кандыдатам.

Асобна трэба сказаць пра апошні выпадак. Справа ў тым, што ў Дзяржынскай выбарчай акрузе N 230 г.Мінска ў час паміж першым і другім турам галасавання была расфарміравана вайсковая часць колькасцю 514 чалавек. Але гэта не было ўлічана акруговай камісіяй пры карэкціроўцы спісаў. У выніку ў выбарах прыняло ўдзел у галасаванні 49,6 працэнта выбаршчыкаў, хаця фактычна гэтая лічба павінна была быць большай за пяцьдзесят. Гэтая памылка і каштавала дэпутацкага мандата прадстаўніку партыі камуністаў Драко, які быў лідэрам па згаданай акрузе, бо, згодна з заканадаўствам, у дадзеным выпадку вынікі галасавання анулююцца. Цяпер лёс камісіі будзе вырашаць пракуратура і суд.

Такім чынам, слабыя надзеі на тое, што да сённяшніх 197 дэпутатаў дабавіцца яшчэ хоць адзін, не спраўдзіліся. Для канчатковага фарміравання беларускага парламента застаецца чакаць наступных выбараў, каштарыс на правядзенне якіх, дарэчы, у хуткім часе Цэнтральная камісія па выбарах плануе разгледзець.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ЗА ПРАВЫ СПАЖЫЎЦОЎ БУДУЦЬ ЗМАГАЦЦА І НА БЕЛАРУСІ

**15 сакавіка Рэспубліка Беларусь разам з усім светам адзначыць Сусветны дзень абароны правоў спажыўцоў.**

Традыцыя правядзення гэтага мерапрыемства была закладзена яшчэ ў 1962 годзе Джонам Кенэдзі, які прапанаваў біль «Аб абароне правоў спажыўцоў». Рэгулярна Сусветны дзень абароны правоў спажыўцоў пачаў адзначацца з 1982 года. Кожны год гэта мерапрыемства праводзіцца пад нейкім адметным дэвізам, сёлета — «За бяспеку прадуктаў харчавання». Асноўную работу па арганізацыі і правядзенню Сусветнага дня абароны правоў спажыўцоў на Беларусі ўзяло на сябе Міністэрства па антыманапольнай палітыцы РБ, бо менавіта яно адказвае за выкананне Закона аб абароне правоў спажыўцоў і за каардынацыю ўзаемадзеяння іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый у гэтай галіне. Імі быў распрацаваны план правядзення Сусветнага дня абароны правоў спажыўцоў у Рэспубліцы Беларусь. Згодна з ім падрыхтаваны і разасланы па ўсіх выканкомах ліст з прапановай напярэдадні 15 сакавіка стварыць у буйнейшых харчовых магазінах куткі спажыўцоў і кансультацыйныя пункты, дзе насельніцтва магло б атрымаць інфармацыю па пытаннях якасці тавараў, на што звяртаць увагу пры іх набыцці. Для насельніцтва 14 сакавіка ў Мінску будзе працаваць «гарачая лінія», куды можна будзе звярнуцца па кансультацыю па розных пытаннях, што датычацца абароны правоў спажыўцоў, або са скаргамі на несумленных гандляроў ці вытворцаў. Уся інфармацыя будзе праверана.

**Сяргей ПРОТАС.**

***НАПЯРЭДАДНІ***

## У МІНСКУ АДБУДЗЕЦЦА ПЕРШАЯ АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ВЫДАЎЦОЎ НЕЗАЛЕЖНАЙ ПРЭСЫ

**15-16 сакавіка ў Мінску пройдзе першая агульнанацыянальная канферэнцыя выдаўцоў незалежнай прэсы, якая ладзіцца цэнтрам «Супольнасць» і Беларускай асацыяцыяй журналістаў пры адтрымцы Інстытута на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе (ІДЕЕ — Warsaw), Міжнароднага адукацыйнага цэнтра і Беларускага фонду Сораса. Напярэдадні мерапрыемства наш карэспандэнт гутарыў з адным з яго арганізатараў, старшынёй рады цэнтра «Супольнасць» сп. Вінцуком ВЯЧОРКАМ.**

**— Канферэнцыя распачынае работу 15 сакавіка — у дзень Канстытуцыі. Гэта выпадкова?**

— Даты супалі сапраўды выпадкова, але, мяркую, разам з тым усё атрымалася даволі сімвалічна. Менавіта Канстытуцыя з'яўляецца гарантам існавання на Беларусі незалежных сродкаў масавай інфармацыі.

**— Якія праблемы абмяркуюць выдаўцы незалежнай прэсы?**

— У першую чаргу, праблему прававога поля, у якім існуе незалежная прэса. Прычым плануецца абмеркаваць яе не толькі з пункту гледжання нашага ўнутранага заканадаўства, але і з пазіцыі міжнародных уяўленняў аб рэалізацыі права на атрыманне інфармацыі.

Па-другое, гэта матэрыяльна-тэхнічныя ўмовы функцыянавання незалежнай прэсы. Тут гаворка пойдзе пра адсутнасць незалежнай і гарантаванай паліграфічнай базы і пра дзяржаўную манаполію на сетку распаўсюджвання.

**— Хто прыме ўдзел у канферэнцыі? Ці запрошаны на яе прадстаўнікі ўлады і госці з замежжа?**

— Удзельнікі канферэнцыі — гэта выдаўцы ці галоўныя рэдактары незалежных сродкаў масавай інфармацыі нерэкламнага характару. Апроч таго, запрошаны старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Уладзімір Бельскі, дэпутаты Вярхоўнага Савета Уладзімір Нісцюк і Аляксандр Дабравольскі, а таксама прадстаўнікі разнастайных міжнародных журналісцкіх арганізацый і арганізацый выдаўцоў незалежнай прэсы.

**— Сп. Вінцук, на ваш погляд, сённяшні стан незалежнай прэсы па Беларусі — гэта найперш праблема палітычная ці эканамічная?**

— Натуральна, у першую чаргу палітычная.

**—Якія рэальныя вынікі можа прынесці канферэнцыя выдаўцоў незалежнай прэсы? І ці не абмяжуецца ўсё толькі прыняццем чарговай заявы аб парушэннях свабоды друку на Беларусі?**

— Гэта ўвогуле першая канферэнцыя выдаўцоў — людзей, якія нясуць адказнасць за лёс свайго выдання, — таму, адпаведна, гэта першая магчымасць наладзіць пэўныя кантакты, паразумецца і, магчыма, дайсці да нейкіх супольных ініцыятыў. Бо вядома: разам лягчэй і выжываць, і перамагаць.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**СМЕРЦЬ СПРАЎЛЯЕ БАЛЬ...**

Жыхары сяла Бамут напалоханы чуткамі аб магчымай вайскавой аперацыі супраць баевікоў. Між тым, кіраўнік адміністрацыі раёна Чачні, да якога належыць Бамут, Хачукаеў катэгарычна абверг інфармацыю аб наяўнасці ў сяле дудаеўцаў. Аднак да гэтага часу ні ўрад Чачні, ні часовае кіраўніцтва МУС Расіі не пацвердзілі і не абверглі інфармацыю аб падрыхтоўцы штурму Бамута. Інтэрфакс прыводзіць версію праваахоўных органаў Чачні наконт таго, што ў выпадку штурму баевікі могуць паспрабаваць уцячы на поўдзень у горы — гэты напрамак застаецца для іх найбольш кароткім і бяспечным. Тым часам падраздзяленнямі МУС знішчаны склад боепрыпасаў у прыгарадзе Грознага. На тэрыторыі рэспублікі актыўных баявых дзеянняў не вядзецца. У горных раёнах праводзіцца перагрупоўка войскаў. Імі блакіравана некалькі аулаў з патрабаваннем выдачы зброі і баевікоў. Працягваюцца перамовы ваенных і пасялковых адміністрацый аб стварэнні зоны міру. Грозненскія падзеі мінулага тыдня спынілі і без таго марудны перагаворны працэс паміж вайсковымі і палявымі камандзірамі, спынены і абмен палоннымі. Днямі было атрымана паведамленне, што цяжка паранены начальнік галоўнага штаба дудаеўскіх фарміраванняў Аслан Масхадаў знаходзіцца ў адным з сёл Гудэрмескага раёна. Масхадаў утрымліваецца ў імправізаваным палявым шпіталі баевікоў і ляжыць пад кропельніцай.

За мінулыя суткі ў Чачні адзін вайсковец федэральных сіл загінуў і трое атрымалі раненні. Становішча ў Грозным застаецца адносна стабільным. Адзначаюцца асобныя выстралы з аўтаматычнай зброі. Учора ў Екацярынбургу адбылося пахаванне 10 байцоў атрада міліцыі асобага прызначэння, якія загінулі напярэдадні 8 Сакавіка ў Грозным на баявым дзяжурстве. Яны былі ва ўпор расстраляны з засады ў адным з прыватных дамоў горада, калі на бронетранспарцёры накіроўвалася да сваіх таварышаў. Узрост загінуўшых — ад 22 да 30 гадоў. У многіх засталіся жонкі і дзеці. На аказанне дапамогі сем'ям загінуўшых міліцыянераў абласныя ўлады выдаткавалі 400 мільёнаў рублёў, аднак грашыма ні мужа, ні бацьку не заменіш.

**ЛІДЭР ВЫЛУЧЫЎСЯ**

Гэтымі днямі ў Злучаных Штатах праходзіць важнейшы этап выбарчай кампаніі, які можа даць адказ на пытанне, хто з рэспубліканцаў стане кандыдатам на пасаду прэзідэнта ЗША. Першасныя выбары ў аўтарак праводзіліся адразу ў сямі штатах. Пераможцам серыі перадвыбарных баталій стаў сенатар Роберт Доўэл.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Мансеньёр Алесандра Маджаліні з італьянскага горада Камо ўсхваляваны тым, як апранаюцца ў апошні час служыцелі царквы. «Амаль усе святары апранаюцца так, як у свой час апраналіся муляры або шахцёры», — заўважыў ён. Наўмысна замяняючы сваё адзенне звычайным, яны адчуваюць сябе «беднымі сярод бедных», што, па іх назіраннях, добра ўспрымаецца прыхаджанамі. Ва ўсякім разе, лічаць некаторыя свяшчэннаслужыцелі, неабавязкова выдзяляцца ў натоўпе веруючых.

**ІТАР—ТАСС**

*Адзначыла стагоддзе свайго існавання егіпецкая Асацыяцыя нашчадкаў прарока Мухамеда. Яна налічвае 30 тысяч членаў. Аднак колькасць егіпцян, якія даказалі, што іх продкі ўзыходзяць да дачкі заснавальніка іслама — Фацьмы, значна большая. Паводле даных асацыяцыі, яна дасягнула ў пачатку года 4 мільёнаў чалавек. Перш чым вынесці рашэнне, эксперты асацыяцыі ўважліва вывяраюць кожнае генеалагічнае дрэва. А гэта няпростая задача, калі ўлічыць, што прарок Мухамед жыў у пачатку VII стагоддзя.*

*Егіпецкая абшчына нашчадкаў прарока — самая вялікая ў арабскім свеце. За ёй ідуць па колькасці аналагічныя абшчыны ў Марока і Іарданіі. Сярод нашчадкаў Мухамеда — кароль Марока Хасан II і кароль Іарданіі Хусейн.*

**ІНТЭРСЕПТ**



**Калектыў «Звязды» выказвае самыя шчырыя спачуванні бухгалтару Таццяне Уладзіміраўне Халугінай з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора — смерці МУЖА.**

# МЫ МОЖАМ ГАНАРЫЦЦА СВАЁЙ КАНСТЫТУЦЫЯЙ



**Два гады назад (15 сакавіка 1994 года) Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў новую Канстытуцыю. Мінулы перыяд паказаў, што яна стала «працуючым» законам нашай дзяржавы. Гэтаму палітыка-прававому дакументу прысвечаны аналітычны артыкул старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, доктара юрыдычных навук Валерыя Ціхіні.**

КАНСТЫТУЦЫЮ справядліва называюць Асноўным законам дзяржавы, гэта свайго роду «закон законаў». Калі ўявіць сабе шматлікія нарматыўныя акты ў выглядзе пэўнай сістэмы, то яе асновай з'яўляецца Канстытуцыя. У ёй замацоўваюцца зыходныя прынцыпы і важнейшыя функцыі дзяржавы, устанаўліваюцца межы прававога рэгулявання грамадскіх адносінаў, вызначаецца характар узаемаадносінаў дзяржавы з грамадзянінам і г. д. Канстытуцыя з'яўляецца юрыдычнай базай для развіцця ўсіх галін права.

Мы можам ганарыцца сваёй Канстытуцыяй. Хоць яна юрыдычна небездакорная і патрабуе ўдасканалення, тым не менш, наша Канстытуцыя ў цэлым адпавядае нормам міжнароднага права і сусветным стандартам. Дарэчы, абсалютна дасканалых канстытуцый у свеце не было і няма. І гэта зусім натуральна. Жыццё не стаіць на месцы. Грамадства развіваецца. І гэты працэс патрабуе перыядычнага ўнясення змяненняў і дапаўненняў у Асноўны закон. Такая міжнародна-прававая практыка...

Адзначым асноўныя вартасці беларускай Канстытуцыі.

Канстытуцыя аб'явіла чалавека вышэйшай каштоўнасцю грамадства і дзяржавы. І ўсклала на дзяржаву адказнасць перад грамадзянінам за стварэнне належных умоў для свабоднага і дастойнага развіцця асобы.

Упершыню ў гісторыі Беларусі на **канстытуцыйным** узроўні замацавана ідэя прававой дзяржавы, якая ўваходзіць у залаты фонд сусветнага супольніцтва. У Канстытуцыі выкладзены асноўныя прынцыпы фарміравання прававой дзяржавы — прынцып вяршэнства закона, прынцып падзелу ўладаў, прынцып узаемнай прававой адказнасці дзяржавы і грамадзяніна, прынцып судовай абароны правоў асобы і інш.

Агульнапрызнаныя прынцыпы і нормы міжнароднага права дзякуючы Канстытуцыі з'яўляюцца прыярытэтнымі і становяцца часткай прававой сістэмы нашай дзяржавы.

Канстытуцыя легалізавала пераход грамадства ад каманднa-адміністрацыйнай сістэмы ўлады да кіравання грамадства з дапамогай закона. Гісторыя, у тым ліку і айчынная, паказала, што стаўка на дыктатара, які «жалезнай рукой» наводзіць парадак у краіне, пагражае грамадству сур'ёзнымі дэфармацыямі і катаклізмамі...

Канстытуцыя выключае магчымасць устанаўлення якой-небудзь ідэалогіі ў якасці абавязковай у Рэспубліцы Беларусь.

Па свайму аб'ёму Канстытуцыя ўяўляе параўнальна невялікі прававы акт (утрымлівае 149 артыкулаў). Як указана ў законе аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі, палажэнням, якія канкрэтызуюць шэраг канстытуцыйных нормаў, павінна быць нададзена форма асобных законаў. Устаноўлены тэрмін іх прыняцця — на працягу двух гадоў пасля ўступлення Канстытуцыі ў сілу. На жаль, у выніку цэлага шэрага аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын гэты тэрмін аказаўся нявытрыманым. Абавязак Вярхоўнага Савета 13-га склікання — давесці гэту работу да канца. У новых законах павінны ўтрымлівацца гарантыі ад чыноўніцкай усёдазволенасці, ад прававой беззаконнасці і да т. п.

Больш як палова артыкулаў Канстытуцыі прысвечана прававому статусу асобы, а таксама эканамічным, палітычным, сацыяльна-культурным правам і свабодам грамадзян. Пры гэтым асабістыя правы і свабоды Канстытуцыя не «дарыць» як ласку, а прызнае іх у якасці ўласнасці грамадзян. Таму яны не могуць быць дзяржавай адабраны або абмежаваны. Абавязак кожнай дзяржавы, якая лічыць сябе дэмакратычнай, аберагаць правы і свабоды грамадзян усімі наяўнымі ў яе сродкамі.

Па ацэнцы юрыстаў-міжнароднікаў, правы і свабоды, замацаваныя ў беларускай Канстытуцыі, адлюстроўваюць **агульнасусветны** ўзровень, адпавядаюць важнейшым міжнародна-прававым актам у гэтай сферы: Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнароднаму пакту аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах і інш.

Як запісана ў Канстытуцыі, Рэспубліка Беларусь — сацыяльная дзяржава. Гэта азначае, што наша дзяржава заклікана ўзяць на сябе ажыццяўленне шэрага **сацыяльных** функцый (у прыватнасці, ахову працы і здароўя людзей, устанаўленне мінімальнага памеру заработнай платы). Важнейшая задача сацыяльнай дзяржавы — гэта падтрымка слаба абароненых у сацыяльным плане слаёў насельніцтва (пажылых грамадзян, інвалідаў, шматдзетных сем'яў і г. д.). Сёння бяспецы чалавека пагражае растучая крыміналізацыя грамадства. Дрэнна захоўваюцца эканамічныя правы грамадзян, у тым ліку права на ўзнагароджанне за працу, на абарону ад беспрацоўя і інш.

На наш погляд, галоўнае цяпер заключаецца ў тым, каб дзяржавай, яе органамі і службовымі асобамі былі прыняты ўсе магчымыя меры для таго, каб канстытуцыйныя нормы, прысвечаныя правам і свабодам, у нашай рэспубліцы працавалі, дзейнічалі. Хацелася б падкрэсліць, што захаванне канстытуцыйных нормаў грамадзянамі і асабліва службовымі асобамі з'яўляецца не толькі іх абавязкам, але і маральным доўгам.

Згодна з Канстытуцыяй арганізацыя дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь заснавана на **прынцыпе падзелу ўладаў**: тры галіны ўлады (заканадаўчая, выканаўчая і судовая) у межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя, узаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адна адну.

І сёння (напярэдадні трэцяга тысячагоддзя нашай эры) актуальнай з'яўляецца ідэя, вылучаная яшчэ ў перыяд, калі ішла барацьба з абсалютнай уладай манарха і яго акружэння: «Калі ўлада заканадаўчая і выканаўчая будуць злучаны ў адной асобе або ўстанове, то свабоды не будзе, таму можна апасацца, што гэты манарх або сенат стане выдаваць тыранічныя законы для таго, каб гэтак жа тыранічна прымяняць іх».

У прававой дзяржаве, да пабудовы якой мы цяпер імкнёмся, не можа быць органа або асобы, у якой бы канцэнтравалася ўся паўната дзяржаўнай улады!

У мінулым годзе Вярхоўным Саветам прыняты законы (аб Вярхоўным Савеце, аб Прэзідэнце, аб Кабінеце Міністраў), якімі вызначаны сферы кампетэнцыі, паўнамоцтвы заканадаўчай і выканаўчай улады. Гэтыя законы ў Канстытуцыйным судзе падвергнуты прававой экспертызе на прадмет іх адпаведнасці Канстытуцыі, па іх Канстытуцыйным судом прыняты адпаведныя заключэнні. Адзначыўшы неканстытуцыйнасць асобных палажэнняў законаў аб Вярхоўным Савеце і аб Прэзідэнце, рэдакцыйныя недакладнасці Закона аб Кабінеце Міністраў, Канстытуцыйны суд разам з тым прызнаў іх права на жыццё.

Увогуле ў рэспубліцы створана належная прававая база для нармальнага функцыянавання трох галін улады. Падзел уладаў заклікaны ў нас стаць гарантам дэмакратызму дзяржаўнага ладу, не дапусціць аўтарытарызму і таталітарызму.

Падзел уладаў не выключае, а мае на ўвазе іх **каапeрацыю**, **аб'яднанне намаганняў** у вырашэнні важнейшых задач, якія стаяць перад дзяржавай і грамадствам. Абвастрэнне адносінаў паміж асобнымі галінамі ўлады (асабліва паміж заканадаўчай і выканаўчай) здольна рэзка аслабіць і нават паралізаваць кіраўніцтва краінай. Сваё важкае слова тут можа і павінен сказаць Канстытуцыйны суд, што ён і рабіў на працягу паўтара года...

З двух найбольш распаўсюджаных формаў дэмакратычнага кіравання (**прэзідэнцкай** і парламенцкай рэспублік) у Беларусі зроблены выбар на карысць прэзідэнцкай рэспублікі.

Канстытуцыя заснавала пасаду «моцнага» Прэзідэнта: ён з'яўляецца не толькі кіраўніком дзяржавы, але і кіраўніком выканаўчай улады. Прэзідэнт (адначасова з Канстытуцыйным судом) з'яўляецца гарантам Канстытуцыі. Прэзідэнт як кіраўнік дзяржавы заклікaны садзейнічаць **узгодненаму функцыянаванню** ўсіх трох галін улады. Разам з тым ён не мае права падмяняць заканадаўчую або судовую ўладу, парушаць іх самастойнасць, урывацца ў іх канстытуцыйныя паўнамоцтвы...

Заканадаўчая ўлада ў Рэспубліцы Беларусь увасоблена ў Вярхоўным Савеце, які ў адпаведнасці з Канстытуцыяй з'яўляецца вышэйшым прадстаўнічым пастаянна дзеючым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады краіны. Распрацоўка і прыняцце законаў — галоўнае ў дзейнасці Вярхоўнага Савета. Ён таксама заклікaны ажыццяўляць кантроль за ходам выканання законаў, надзелены і некаторымі іншымі кантрольнымі паўнамоцтвамі. Перш за ўсё гэта кантроль за назначэннем (вызваленнем) прэм'ер-міністра, яго намеснікаў, кіраўнікоў «сілавых» міністэрстваў і ведамстваў. Канстытуцыяй прадугледжаны таксама механізм парламенцкага кантролю ў фінансавай сферы і іншых галінах.

Згодна з Канстытуцыяй **судовая ўлада** займае галоўнае становішча ў барацьбе за законнасць і правапарадак. Ніякія іншыя ўстановы (акрамя суда) не маюць права прэтэндаваць на выкананне судовых функцый.

Стан судовай улады, яе роля ў жыцці дзяржавы і грамадства — гэта свайго роду лакмусавая паперка, па якой можна меркаваць аб дэмакратыі і законнасці ў краіне. Неабходна прызнаць, што нам трэба зрабіць яшчэ вельмі многае, каб судовая абарона (не на словах, а на справе) стала **асноўнай формай** правоў асобы...

Цяпер у сродках масавай інфармацыі з'явіліся выказванні некаторых афіцыйных асоб аб неабходнасці распрацоўкі і прыняцця новай Канстытуцыі. Такія заявы выклікаюць, мякка кажучы, неўразуменне.

Так, наша Канстытуцыя патрабуе ўдасканалення, у ёй ёсць пэўныя заганы і недахопы. Але іх можна ліквідаваць шляхам тлумачэння або шляхам унясення адпаведных карэктываў у асобныя канстытуцыйныя нормы. Як ужо адзначалася, у цэлым наша Канстытуцыя адпавядае сусветным стандартам! Давайце не будзем смяшыць цывілізаваны свет.

Канстытуцыя 1994 года — гэта ўжо пятая па ліку Канстытуцыя ў гісторыі Беларусі за апошнія амаль 80 гадоў. Хіба разумны гаспадар так часта можа мяняць фундамент дома, у якім ён жыве? А Канстытуцыя ж — гэта фундамент усяго дзеючага заканадаўства, аснова прававой сістэмы нашай дзяржавы. Беларускай Канстытуцыі толькі два гады, Канстытуцыі ЗША — звыш двухсот гадоў...

Таму пакінем «канстытуцыйны сверб» і сканцэнтруем свае намаганні на прававым фарміраванні дзяржавы і грамадства, у чым мы цяпер крайне маем патрэбу.

Два папярэднія гады мы вучыліся жыць па новай Канстытуцыі. Вучоба яшчэ не закончана. Але бясспрэчна тое, што дзеючая Канстытуцыя здольна выканаць прызначаныя ёй функцыі і задачы, можа служыць эфектыўным сродкам пабудовы ў нашай рэспубліцы дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавы.

*«НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»*

# «ЗЕРНЕ, КІНУТАЕ Ў НІВУ...»

## *Да 40-годдзя з дня заснавання беластоцкай газеты «Ніва»*

**17-18 лютага ў Беластоку адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя саракагоддзю з часу утварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Пра што паведамлялася ў нашых сродках масавай інфармацыі, падрабязна пісала ў тым ліку і «Звязда» (нумар за 23 лютага).**

А нядаўна, на пачатку сакавіка, у тым жа Беластоку была адзначана яшчэ адна юбілейная дата — саракагоддзе з дня выхаду першага нумара штотыднёвай беларускай газеты «Ніва».

Тытульнае вызначэнне газеты: «Тыднёвік беларусаў у Польшчы». Але яна па шмат якіх параметрах належыць не толькі польскім беларусам, але карыстаецца аўтарытэтам, добрай славай і па гэты бок мяжы, у Рэспубліцы Беларусь, мае свайго сталага ўдзячнага чытача сярод беларусаў усяго свету. Таму было б несправядліва пакінуць без увагі першы паважны юбілей тыднёвіка.

Як ён нараджаўся? Якім быў пачатак?

Ініцыятыву праявілі арганізатары БГКТ. Адзін з іх — першы рэдактар газеты Георгій Валкавыцкі ўспамінае ў сваіх «Нататках рэдактара»: «Падзялілі абавязкі, пачалі рыхтаваць з'езд. Я стаў намеснікам старшыні і адказным за прапаганду. Пачаў танцаваць ад загалоўка. Не ўсе ведаюць беларускую мову, а нам неабыякавыя асацыяцыі, якія выкліча ў людзей наш штотыднёвік. Вельмі хацеў уплесці гістарычнае карэнне. Гэта наша адзіная газета на беларускай мове ў рэгіёне. Ужо амаль адчуваў дотык працягнутай з гісторыі рукі, таксама «адзінай» віленскай «Нашай нівы». Шмат чаго ў нас знойдзецца супольнага — вынік той жа «адзінасці». Значыць, з загалоўкамі справа ясная. Да прастаты і даходлівасці дадаў мілагучнасць і падтэкст». Далей Г. Валкавыцкі распавядае: «13.1.1956 г. з'явіўся наш анонс: «Неўзабаве ў Беластоку пачне выходзіць часопіс на беларускай мове. Гэта будзе тыднёвік «Ніва». Вельмі хочам дастасаваць часопіс да патрэб беларускага насельніцтва. Таму звяртаемся да будучых чытачоў «Нівы» з просьбай наладзіць з намі як найшырэйшае супрацоўніцтва».

Забягаючы крыху наперад, заўважу: спадзяванні сваіх будучых чытачоў, сваіх патэнцыяльных падпісчыкаў і карэспандэнтаў газета «Ніва», як паказала жыццё, з годнасцю апраўдала і прадаўжае апраўдваць. У гэтым я мог асабіста пераканацца. Бываючы на Беласточчыне і сустракаючыся ў школах і ліцэях з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры. Па іх прызанні, «Ніва» з яе разнастайнымі матэрыяламі па гісторыі і літаратуры, з яе традыцыйным літаратурна-мастацкім раздзелам і нязменнай старонкай для дзяцей служыць для настаўніка вялікай падмогай.

«Цешыла прыхільнасцю чытачоў, цёпла сустрэў «Ніву» польскі друк,— працягвае свае згадкі Г. Валкавыцкі.— На палітычнай карце панавала ўстойлівая адліга, а ўсходні вецер прыносіў гарачы подых XX з'езда. У «Звяздзе», а затым у «Советской Белоруссии» з'явіліся артыкулы, у якіх цэнтральныя беларускія газеты высока ацанілі напрамкі нашай дзейнасці. Прыслалі прыветлівыя лісты беларускія пісьменнікі, а малады паэт Ніл Гілевіч перакліквaўся вершам «На прадвесні». У красавіку рэдакцыю наведаў Пятро Глебка. (Першы нумар газеты датаваны 4.03.56 г. — А. В.). Наладзілі сувязь з беларускімі пісьменнікамі і ўстановамі...»

Пра той, саракагадовай даўнасці, пачатак распавядаў мне неяк пры сустрэчы, а зараз піша ў сувязі з юбілеем адзін са старэйшых і самых актыўных аўтараў «Нівы» Сакрат Яновіч. «Памятаю марозную зіму 1956 года,— згадвае С. Яновіч. — Ехаў я тады з Крынак у Беласток на работу ў толькі што арганізаванай рэдакцыі «Нівы». Холад даймаў так, што не было змогі ўсядзець на месцы, а навакольны свет засланялі ўзоры на шыбах. Панавала нейкая незвычайная зачараванасць. Гэтае пачуццё не пакідала мяне і потым... Дзеці простых людзей узяліся рабіць сваю беларускую газету за дзяржаўныя грошы. Для майго бацькі гэта быў парадокс, які не павінен доўга працягнуцца. Стары не ўхваляў таго, што я кінуў працу электрыка ў фастаўскім камбінаце...»

С. Яновіч яшчэ зазначае, што першая ў рэгіёне газета (іншых, у тым ліку і польскамоўных, выданняў тут не было) задумвалася і фарміравалася як народная, з нацыянальна-асветніцкім ухілам. Да гэтага трэба дадаць, што менавіта такой яна з'яўляецца ў асноўным і па сённяшні дзень. Яна вытрымала выпрабаванне часам.

Ці былі цяжкасці на шляху станаўлення тыднёвіка і яго дзейнасці? Безумоўна былі. Самага рознага характару. «Дзівосныя ўзоры на шыбах» азмрочваліся суровымі жыццёвымі рэаліямі. У першыя часы не хапала творчых сіл, беларускамоўных кадраў. Рэдактараў «Нівы» не-не ды і абвінавачвалі: то ў беларускім нацыяналізме, то ў недастатковай лаяльнасці да «пальшчызны», а то нават і ў блюзнерстве (гэта калі апублікавалі «Каляды» — урывак з «Новай зямлі» Якуба Коласа). Інкрымінавалі ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі ў краіне на дадзены момант. Аднойчы партыйнае кіраўніцтва (беластоцкі камітэт колішняй ПАРП) ледзь не прыняло пастанову аб рэарганізацыі тыднёвіка — па ідэйных меркаваннях. Не ўсё проста і на сённяшні дзень.

Ды нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды «Ніва» выжыла, выстаяла, застаецца вернай свайму выбару, свайму патрыятычнаму і прафесіянальнаму абавязку. З'яўляецца, як ужо адзначалася, цікавым, папулярным выданнем. Выданнем-асветнікам. Выданнем — носьбітам нацыянальнай ідэі. Выданнем — сувязным паміж дыяспарай і «метраполіяй». Аглядаючы зробленае за сорак гадоў, супрацоўнікі газеты могуць з гонарам адзначыць тое, што менавіта з іх выданнем звязана непасрэдна творчая і навукова-асветніцкая дзейнасць такіх вядомых на Беласточчыне, у Польшчы і за яе межамі людзей, як Алесь Барскі, Георгій Ваўкавыцкі, Мікалай Гайдук, Ян Чыквін. Віктар Швед, Сакрат Яновіч і некаторыя іншыя; могуць з гонарам прыгадаць той факт, што ў аналах рэдакцыі знаходзяцца лісты Ларысы Геніюш, Міхася Забэйды-Суніцкага, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Пысіна, Алега Лойкі... Некаторыя з гэтых лістоў прыводзіць у сваіх нататках Г. Ваўкавыцкі. Вось яны, напрыклад: «Вялікі Вам усім дзякуй за «Ніву», за дадаткі, за цудоўную справу «календара» і «навуковага зборніка». Якія Вы малайцы і якую вялікую работу робіце!.. Ваш Уладзімір Караткевіч»; «Вялікі Вам дзякуй за ўвагу і за «Ніву», якую я даўно ведаю і чытаю, як і цаню і лічу, што ўсе вы, яе выдаўцы, робіце вельмі карысную справу, якую проста немагчыма пераацаніць у наш час. Ахвотна буду чытаць Ваш тыднёвік і супрацоўнічаць з ім... Яшчэ раз дзякуй Вам. З вялікай павагай. Васіль Быкаў»...

У якасці высокага прыкладу заснавальнікі беластоцкай газеты бралі віленскую «Нашу ніву». Адзін з аўтараў і рэдактараў апошняй, Янка Купала, звяртаўся ў свой час да рэдакцыйнага калектыву:

*Зерне, кінутае ў ніву,*
*Ўсходзіць ды красуе.*
*Наша зерне — нашы думкі —*
*Не загінуць свету, —*
*Бліснуць краскай непаблеклай*
*Вечных агняцветаў.*
*З добрых думак, што мы кінем*
*На сваім дзірване,*
*Будзе ўнукам нашым жніва —*
*Доля, панаванне.*

Думаю, што гэтыя ўзнёслыя, жыццесцвярджальныя радкі можна ў немалой ступені адрасаваць і беластоцкай «Ніве», якая з добрым плёнам сустрэла свой саракагадовы юбілей.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

***ЦЫТАТА РУБРЫКІ:***

*«Гістарычна склалася так, што беларускі народ заўсёды быў як гарох пры дарозе: хто не ідзе — цярэбіць. Адсюль і пэўнае светаўспрыманне народа, яго гумар і яго «смехавая» літаратура. На гэтай «смехавай» літаратуры, на камедыі вырас купалаўскі тэатр. Яе яркім прадстаўніком быў Кандрат Крапіва. Спачатку як байкапісец, а потым як аўтар камедый, стваральнік неўміручых персанажаў накшталт Гарлахвацкага, які палеазойскую эру называў пензенскай».*

*«Паказваючы жыццё ў яго нацыянальна-гістарычнай дакладнасці, Кандрат Крапіва раскрываў надзённы сэнс самых складаных сацыяльных і палітычных з'яў, якія кранаюць за жывое і цяпер. У пісьменніка ёсць творы, напісаныя, здаецца, не ўчора, а сёння ці нават заўтра. Аднойчы з такіх твораў з'яўляецца сатырычны верш «Дзе ж яна, галоўная самая?» (1931), накіраваны на абарону нацыянальнай культуры і нацыянальнай мовы. Ён мае растлумачальны падзагаловак «На вылазку вялікадзяржаўнага шавінізму ў асобе настаўніцы Засімавай».*

*І вось шавіністку мы бачым за працаю*
*З пенай на вуснах, аблітую потам:*
*Яна, бачыце, абараняе вялікарускую нацыю,*
*Якая наогул у нас «пад прыгнётам».*
*Моцна, як кажуць, тут зашрубована...»*

**(З выступленняў народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі і акадэміка, дырэктара Інстытута літаратуры АН Віктара Каваленкі падчас урачыстасцей, прысвечаных 100-гадоваму юбілею з дня нараджэння Кандрата Крапівы.)**

# НАДЫШОЎ ЧАС ВЫПРАЦОЎКІ НОВЫХ МЕХАНІЗМАЎ РЭАЛІЗАЦЫІ СУМЕСНЫХ РАШЭННЯЎ

***Іван БАМБІЗА — чалавек звычайнай для яго пакалення біяграфіі. Нарадзіўся на Палессі ў мнагадзетнай сям'і. Закончыў інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Потым працаваў на розных пасадах: галоўным інжынерам, дырэктарам саўгаса, начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі, старшынёй райвыканкома. Шырокай публіцы Бамбіза стаў вядомым пасля выбрання яго намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета папярэдняга склікання. І вось ужо шэсць месяцаў ён працуе міністрам па справах СНД.***

**— Іван Міхайлавіч, ваша міністэрства і самае маладое, і самае, на мой погляд, пакуль малавядомае для грамадскасці. Прабачце, але нямала жыхароў Беларусі блытаюць яго з выканаўчым сакратарыятам СНД. А вас больш ведаюць па ранейшай працы ў Вярхоўным Савеце. Таму, калі ласка, спачатку акрэсліце кола пытанняў і праблем, якімі займаецца ваша ведамства.**

— У бюракратычным сэнсе, я дадаў бы, Міністэрства па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў, бадай, і самая цікавая дзяржаўная структура. Міністр і яго намеснік ёсць, і апарат у міністра ёсць 16 супрацоўнікаў Кабінета Міністраў, якія дапамагаюць яму выконваць яго функцыі. Гэта іх двайная падпарадкаванасць у многім абумоўлена спецыфікай работы міністра. Таму што самога міністэрства на самай справе не існуе. І я ўпэўнены — гэта было правільнае рашэнне. Тое, што супрацоўнікі апарату міністра адначасова маюць ранг служачых Кабінета Міністраў, ідзе толькі на карысць справе. Нам даводзіцца пастаянна сутыкацца амаль з усімі міністэрствамі краіны, нярэдка выступаць у ролі каардынатара пры падрыхтоўцы пэўных рашэнняў. Бо ўсе дакументы, што датычаць СНД, праходзяць і праз нашу структуру, і праз урад.

Галоўная мая задача як міністра — забяспечыць дзейнасць усіх нашых дзяржаўных структур у перагаворным працэсе з усімі краінамі СНД. Акрамя таго, ма таксама дапамагаем аблвыканкомам, ведамствам, буйным прадпрыемствам. Прыярытэт нашай працы — вырашэнне сацыяльна-эканамічных праблем у рамках СНД. Гэтым мы, напрыклад, адрозніваемся ад Міністэрства замежных спраў, якое ў сваім знешнепалітычным рэчышчы таксама вядзе праблематыку СНД.

Звычайна наша дапамога асобнай галіне гаспадаркі, таму ці іншаму прадпрыемству заключаецца ў рэалізацыі канкрэтных праектаў, міждзяржаўных пагадненняў, якія ствараюць спрыяльныя ўмовы суб'ектам гаспадарання. Але мы ні ў якім разе не падмяняем кіраўніцтва тых аб'яднанняў, заводаў, якія незразумела чаго чакаюць і спрабуюць вырашэнне сваіх праблем перакласці на плечы дзяржавы.

Хаця пры магчымасці мы імкнёмся аказаць і адраснае садзейнічанне. Успамінаецца наведванне ташкенцкага завода, які вырабляе бавоўнаўборачныя камбайны. Там штогод патрабуецца ў перспектыве 10—12 тысяч трактароў «Беларусь», на базе якіх выпускаюцца машыны для ўборкі бавоўны. Узбекі вельмі зацікаўлены ў прадукцыі МТЗ, але грошай у іх не хапае. Таму мы дамовіліся аб узаемных пастаўках бавоўны за трактары. У выніку наша лёгкая прамысловасць атрымае сыравіну, а МТЗ — рынак для сваёй прадукцыі.

Важнейшай дзяржаўнай задачай сёння павінна з'яўляцца больш актыўнае развіццё гандлёва-эканамічных адносінаў з краінамі—удзельніцамі СНД. Нашы вытворцы беспадстаўна, з нейкай лёгкасцю спасылаючыся на цяжкасці, якія, безумоўна, ёсць, недастаткова, на мой погляд, працуюць па замацаванню і пашырэнню рынку збыту сваёй прадукцыі на прасторах СНД. Удзельная вага знешняга тавараабароту з краінамі Садружнасці падае. Наогул, назіраецца вельмі энергічнае замяшчэнне тавараў, вырабляемых у краінах СНД, заходнееўрапейскімі і азіяцкімі таварамі, да таго ж і не лепшай якасці.

Трэба распрацаваць праграму, якая б прадугледжвала стварэнне ва ўсіх важнейшых рэгіёнах СНД Дамоў гандлю, шырокай дылерскай сеткі і прадстаўніцтваў буйнейшых прадпрыемстваў і аб'яднанняў рэспублікі, пунктаў сэрвіснага абслугоўвання і іншых магчымых арганізацыйных формаў. Прадпрыемствы павінны аб'яднаць свае намаганні, у тым ліку і фінансавыя.

**— Вось вы сказалі: ...«наша задача — забяспечыць перагаворны працэс». Удакладніце, што гэта за праца такая? Я, як і мільёны іншых жыхароў Беларусі, магу толькі па скупых звестках з друку, тэлебачання здагадвацца аб складанасці і супярэчлівасці гэтага працэсу, напрыклад з Расіяй. Ён то ажыўляўся, набываў дынамізм, то чамусьці супакойваўся, нават увогуле запавольваўся, затым зноў набіраў тэмпы. Адчувалася, ішла барацьба палітычных ліній, эканамічных інтарэсаў, асоб. І вялася яна з пазіцый цвярозага разліку і прагматычных падыходаў. Магу сабе ўявіць, колькі гібкасці, прадбачлівасці, умення адэкватна рэагаваць на запыты і контраргументы патрабуецца ад удзельнікаў перагавораў, каб уступаць у дробязях, але не страціць у галоўным. Дык можа прыпадымеце заслону тайны, якая звычайна ахутвае перагаворны працэс? У чым яго сакрэтнасць?**

— Прашу прабачэння, але мушу вас расчараваць — не прыпадыму. Спецыфіка перагаворнага працэсу не дазваляе мне гэта рабіць. На мой погляд, няма нічога асаблівага ці надзвычай цікаўнага, таямнічага ў тэхналогіі перагавораў. Знаёмства з іх «кухняй» наўрад ці ўзбагаціць чытачоў «Звязды» новым веданнем сутнасці адносінаў з той ці іншай дзяржавай СНД, а вось прынесці шкоду можа. Бо кожнае заўчаснае абвяшчэнне канфідэнцыяльнай інфармацыі выклікае не заўсёды станоўчую рэакцыю другога боку на перагаворах.

Так, СНД аб'ядноўвае шмат дзяржаў. Вядома, Беларусь з усімі імкнецца падтрымліваць і развіваць узаемавыгадныя адносіны. Але аб'ектыўна і незалежна ад таго, падабаецца гэта ці не асобным дзеячам, стратэгічным партнёрам для нас з'яўляецца Расія. З ёй у нас вялася і вядзецца найбольш інтэнсіўная праца. Ці, інакш, — перагаворны працэс. Чаго варта, напрыклад, папярэдняя сумесная работа па стварэнню мытнага саюза. Тут абодвум бакам прыйшлося прыводзіць у адпаведнасць заканадаўча-нарматыўную базу. І паверце, зусім не проста было ліквідаваць супярэчнасці, спрэчныя пытанні, якія ўзнікалі ў час перагавораў. Асабліва гэта датычала мытных пошлін. Кожны бок падыходзіў да вырашэння праблемы са сваімі меркамі, але потым у ходзе абмеркаванняў, спрэчак знаходзілі агульную мову.

Гэты вопыт перагавораў зараз уважліва вывучаецца іншымі дзяржавамі СНД, якія заявілі аб сваім жаданні далучыцца да мытнага саюза. Я маю на ўвазе Кіргізію, Таджыкістан, Узбекістан. Для іх вельмі важна сёння авалодаць механізмам уступлення ў мытны Саюз у частцы адаптацыі нацыянальных заканадаўстваў да агульных патрабаванняў. І калі яны іх выканаюць, то пасля адпаведнай экспертызы спецыялістаў перад гэтымі краінамі не будзе перашкод на шляху ў мытны саюз.

**— Магчыма, я не буду арыгінальным, калі спытаю ў вас аб тым, наколькі эфектыўным для СНД будзе мытны саюз без удзелу ў ім Украіны? Дарэчы, як з ёй развіваюцца нашы адносіны?**

— На мой асабісты погляд, у Беларусі больш імкнення развіваць эканамічнае і палітычнае супрацоўніцтва з нашай паўднёвай суседкай, чым у яе з намі. Хацелася б памыляцца, але, на жаль, сітуацыя такая, што мы нават не можам рэалізаваць ужо дасягнутыя дамоўленасці, скажам, пагадненне аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. Хаця паміж нашымі краінамі дзейнічае рэжым свабоднага гандлю. Мы можам без перашкод прапаноўваць адзін аднаму ўсе віды тавараў за выключэннем асобных, гандаль якімі асабіста кантралюе прэзідэнт Украіны. Да такіх стратэгічных тавараў аднесена збожжа. І нам хацелася б мець больш паразумення з Украінай у гандлі менавіта гэтай сельгаспрадукцыяй, што дазволіла б скараціць выдаткі на яе завоз з краін далёкага замежжа — Канады, ЗША.

А ўвогуле я ахарактарызаваў бы нашы адносіны з Украінай як рыначныя, якія будуюцца на аснове ўліку ўзаемнай выгады і інтарэсаў.

Дарэчы, і з Казахстанам у нас адносіны развіваюцца падобным чынам. Але і тут збожжа таксама часам выступае ў ролі фактара, які не спрыяе іх узбагачэнню. Таму, на мой погляд, каб яго выключыць, нам трэба паступова перайсці на самазабеспячэнне збожжам.— **У апошні час даволі дынамічна развіваюцца гандлёва-эканамічныя кантакты з Малдовай. Чым вы растлумачыце гэты іх, без перабольшання, росквіт?**

— Сапраўды, з Малдовай у нас многае атрымліваецца. Прыметна актывізаваліся знешнегандлёвыя адносіны пасля візіту туды Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Узаемаразуменне, гатоўнасць пайсці адзін аднаму насустрач, дапамагчы — галоўныя рысы нашага супрацоўніцтва. Малдаване нядаўна прапанавалі нам цікавы і прадуманы праект гандлёва-эканамічнага пагаднення, якое хутка павінна быць падпісана. Гэты дакумент, я думаю, будзе садзейнічаць далейшаму ўзаемавыгаднаму гандлю, вынікі якога жыхары Беларусі ўбачаць на прылаўках магазінаў. Малдаўскія агародніна і садавіна, сокі і віны заўсёды былі ў нас у пашане. Стабільнасць і няўхільнае паглыбленне нашых адносінаў з гэтай краінай тлумачыцца ў першую чаргу тым, што палітычнае кіраўніцтва абедзвюх дзяржаў бачыць выйсце са складанага сацыяльна-эканамічнага становішча ў наладжванні цесных эканамічных сувязей, аб'яднанні намаганняў у агульным накірунку, мэта якога — дабрабыт народаў. І што вельмі важна — на гэтым шляху і Малдова і Беларусь у асноўным разлічваюць на ўласныя сілы, а не на нейкую эфемерную фінансавую дапамогу звонку.

**— Жыхары краін СНД не менш, чым ад эканамічнага крызісу, а часам яшчэ больш, пакутуюць ад разгулу злачыннасці, якая не ведае мытных бар'ераў, дзяржаўнай мяжы і міжнацыянальных канфліктаў. Што робіцца для таго, каб збіць хвалю цяжкіх злачынстваў, ліквідаваць арганізаваныя крымінальныя групоўкі, якія ў асобных краінах СНД сталі моцнай пагрозай існаванню дзяржавы?**

— Цяпер заканчваецца сумесная работа над буйной праграмай па барацьбе са злачыннасцю ў межах СНД. Напрыклад, мой намеснік Васіль Шаладонаў узначальваў групу па распрацоўцы пэўных яе мерапрыемстваў. Яны будуць разглядацца на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў.

Чакаецца, што вынікам гэтай работы стане прыняцце неардынарных рашэнняў супраць крымінальнага свету. Яны будуць тычыцца каардынацыі дзейнасці органаў унутраных спраў, пракуратуры, судоў, спецслужбаў. Каб справядлівае пакаранне ўсюды на тэрыторыі СНД напаткала вінаватых. Бо не сакрэт, што ў нас існуе праблема выдачы злачынцаў, часта гэты працэс наўмысна зацягваецца. А якую небяспеку тоіць у сабе распаўсюджванне наркотыкаў, падпольны гандаль зброяй і боепрыпасамі і г.д. Даўно ўжо наспеў час рашучай бескампраміснай барацьбы са злачыннасцю ва ўсіх рэгіёнах СНД. І я думаю, што яе пачаткам стане ажыццяўленне данай праграмы.

**— А вы, Іван Міхайлавіч,відаць, вялікі аптыміст. Колькі ўжо дзесяткаў мудрых рашэнняў, пастаноў прымалася ў СНД на сустрэчах на вышэйшым узроўні. Колькі волі, аднадушнасці і шчырага жадання рэалізаваць іх дэманстравалі кіраўнікі дзяржаў на экранах тэлевізараў. Але потым чамусьці на ўзроўні выканаўцаў ўсе гэтыя рашэнні так і заставаліся на паперы. Ці не напаткае гэткі ж лёс і праграму па барацьбе са злачыннасцю?**

— Выкананне сваіх рашэнняў, бадай, самая злабадзённая праблема СНД. Яе сутнасць у тым, што не ўсе краіны сумесныя дамоўленасці аднолькава актыўна праводзяць у жыццё на нацыянальным узроўні. У Беларусі, напрыклад, гэтай справай займаюцца, адпаведна, міністр і яго апарат. Падобныя структуры таксама ёсць у Расіі і Казахстане ствараецца ў Кіргізіі. А ў астатніх краінах СНД гэткіх дзяржаўных структур няма. Наколькі я ведаю, на Украіне праблемы СНД вядзе намеснік міністра знешнеэканамічных сувязей, у іншых краінах пытаннямі СНД даручана займацца аднаму з аддзелаў урада і г.д.

На мой погляд, вось гэта не адэкватнае структурнае складанасці праблем СНД забеспячэнне таксама многае гаворыць пра ступень зацікаўленасці ў рэалізацыі прынятых пагадненняў. Таму надышоў час выпрацоўваць новыя падыходы да ажыццяўлення рашэнняў. Варыянты могуць быць розныя. Напрыклад, тыя ж над- ці між- нацыянальныя органы, пра стварэнне якіх нядаўна заявілі прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын. Як мне здаецца, іх прапанова даволі блізкая да той ідэі, якую з поспехам ужо не першы год рэалізоўваюць у Заходняй Еўропе. Я маю на ўвазе Еўрапейскі саюз. У ім, з аднаго боку, ўлічаны інтарэсы ўсіх яго членаў, а з другога —рашэнні кіруючых органаў ЕС абавязковыя для выканання ўсімі краінамі-ўдзельніцамі. Спрэчныя пытанні, непаразуменні там вырашаюцца цывілізавана — шляхам перагавораў. Ды інабыты намі вопыт сумеснага жыцця ў СССР пераконвае нас, што гэта правільны шлях.

Стварэнне вышэйназваных органаў не прынясе шкоды нацыянальным інтарэсам ні Беларусі, ні Расіі, ні іншым дзяржавам, якія пажадаюць далучыцца да дагавора. Наадварот, народы абедзвюх дзяржаў атрымаюць толькі карысць. І сёння галоўнае хутка, без прамаруджвання рэалізаваць дамоўленасці Аляксандра Лукашэнкі з Барысам Ельцыным, якія былі дасягнуты ў ходзе першага афіцыйнага візіту Прэзідэнта Беларусі ў Маскву.

**Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ДА ЎВАГІ ПАШТАЛЬЁНАЎ!

**Рэдакцыя газеты «Звязда» вырашыла прэміраваць паштовыя аддзяленні рэспублікі, якія дасягнуць найлепшых вынікаў падпіскі на нашу газету на II квартал 1996 года.**

**Умовы гэтага конкурсу даволі простыя:**

**за найбольшы колькасны прырост падпіскі адносна I квартала гэтага года вызначаны тры асноўныя прэміі.**

**1-я прэмія — 3 мільёны рублёў;**

**2-я прэмія — 2,5 мільёна рублёў;**

**3-я прэмія — 2 мільёны рублёў;**

**Устаноўлена дзесяць заахвочвальных прэмій па 300.000 кожная. Пераможцаў конкурсу па выніках падпіскі вызначыць ДАП «Мінская пошта». Паштовыя аддзяленні, якія пераматлі ў конкурсе, будуць названы ў газеце.**

**Рэдакцыя газеты «Звязда».**

**Шаноўныя чытачы «Звязды»!**

**ПАДПІСКА на нашу газету на другі квартал 1996 года ЗАКОНЧЫЦЦА 19 САКАВІКА.**

***У вас засталося некалькі дзён.***

**Чакаем вас ва ўсіх аддзяленнях сувязі!**

**Падпісная цана на «Звязду» — самая танная з усіх беларускіх штодзённых газет: 40.800 рублёў на квартал і 13.600 — на месяц.**

**РАБІЦЕ СВОЙ ВЫБАР!**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб. Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## ПАЙШЛІ СВАІМ ШЛЯХАМ І...

**Сёлета ў Лельчыцкі раён павінны прыехаць на работу больш як дваццаць урачоў. Лічба гэтая ўражвае, калі ўлічыць, што раён забруджаны чарнобыльскімі радыенуклідамі і выпускнікі медыцынскіх ВНУ рукамі і нагамі адбіваюцца ад накіравання сюды.**

Дык як жа тады так атрымалася, што Лельчыцкі раён у гэтых адносінах выглядае лепш, чым шэраг чарнобыльскіх раёнаў Гомельшчыны? Аказваецца, кіраўнікі яго некалькі гадоў назад у гэтым плане, як яны кажуць, пайшлі «сваім шляхам». А менавіта з прычыны таго, што выпускнікі мясцовых школ (ці то з-за недастатковай падрыхтоўкі, ці то нечага іншага) не маглі паступіць у медыцынскія інстытуты, дамовіліся з міністэрствамі аховы здароўя і адукацыі, Дзяржкамчарнобылем аб арганізацыі класа выпускнікоў раёна, якія жадаюць набыць спецыяльнасць урача ў адной з навучальных устаноў сталіцы рэспублікі. Выкладанне прадметаў, якія здаваліся пры паступленні ў інстытут, вялі вузаўскія спецыялісты. І вось вынік. Ён радуе лельчукоў.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ГАРЫМ ЯК СВЕЧКІ

**У 1979 годзе на пажарах у Магілёўскай вобласці загінула 18 чалавек, у 1982-м — 34, а летась — 102. Але рэкордным на ахвяры абяцае стаць сёлетні год. За два месяцы агонь ужо забраў 44 жыцці.**

Статыстыку, якая сведчыць аб трывожнай тэндэнцыі, прывёў у мясцовай прэсе намеснік начальніка ўпраўлення ваенізаванай пажарнай службы УУС аблвыканкома Анатоль Шчука. На думку прафесіянала, старэюць людзі і іх жыллё, прыходзяць у непрыгоднасць печы і электраправодка, а рамантаваць няма каму. Гэта ўжо становіцца дзяржаўнай праблемай. Як і п'янства, з-за якога ўзнікае большасць пажараў: выпівакі прыносяць пажарнай службе турбот не меней, чым міліцыі.

У такіх умовах пажарнікі ўзмацнілі прафілактыку. Завяршаецца аперацыя «Жыллё», у ходзе якой абследавана каля 120 тысяч жылых дамоў, праінструктавана больш за 230 тысяч жыхароў вобласці, выяўлены і прапанаваны да ліквідацыі сотні тысяч парушэнняў.

Але абстаноўка настолькі сур'ёзная, што без радыкальных мераў на ўрадавым узроўні становішча не паправіш.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

## ТВАРЫ БЕСПРАЦОЎЯ, УБАЧАНЫЯ БЕСПРАЦОЎНАЙ ЖУРНАЛІСТКАЙ

**У апошні час часта можна пачуць статыстычныя даныя, якія красамоўна апісваюць становішча на рынку працы ў рэспубліцы. Вось і ў Віцебскай вобласці зарэгістравана амаль 18 тысяч афіцыйна прызнаных беспрацоўнымі. Летась гэта лічба складала крыху больш як 13 тысяч. Шмат беспрацоўных у Віцебску — амаль 7 тысяч чалавек, Наваполацку — больш за 1500, Оршы — больш за 1000.**

Раней да гэтых лічбаў я аднеслася б больш-менш спакойна: і праз гэта трэба прайсці, каб стаць цывілізаванай дзяржавай. Але нездарма кажуць: пакуль певень не дзеўбане... І певень беспрацоўя дзеўбануў-такі мяне. Пайшла я ў Наваполацкі цэнтр занятасці, бо менавіта тэма беспрацоўя сёння, як вы зразумелі, мне найбольш блізкая. Да таго ж трэба было адзначыцца, што ўсё яшчэ шукаю работу.

Пазнаёміўшыся з лічбамі, якія мне далі ў цэнтры занятасці, зрабіла некалькі высноў.

**ВЫСНОВА ПЕРШАЯ:**
**Наваполацк — не выключэнне, І тут у беспрацоўя жаночы твар**

У чарзе перад вядомым усім беспрацоўным горада кабінетам №5 заўсёды больш лепшай паловы чалавецтва, чым мужчынскага полу. А лічбы сцвярджаюць, што з 1581 зарэгістраванага беспрацоўнага — 1072 жанчыны. А што сёння ёй можа прапанаваць цэнтр занятасці? Калі ласка — у прыбіральшчыкі, дворнікі, гардэробшчыкі, на іншыя рабочыя месцы. А ці ўсякая жанчына пойдзе на такую работу, каб атрымліваць 200 тысяч, калі дапамога па беспрацоўі не намнога меншая?! Тым больш, што пры «вытворчай неабходнасці» будуць скарочаны ў першую чаргу, як гэта адбылося ў канцы мінулага года ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы горада, а яшчэ раней у некаторых ведамасных службах ЖКГ, дзе скарацілі дворнікаў, прыбіральшчыц лесвічных клетак. І сёння, нават пад снегам, бачна, як мы зарастаем смеццем, а нашы пад'езды ператвараюцца ў смеццязборнікі.

Сёлета таксама чакаецца папаўненне ў радах беспрацоўных. Толькі завод «Вымяральнік», па звестках цэнтра занятасці, плануе скараціць каля 1000 чалавек, яшчэ завод ЖБВ, бялкова-вітамінны камбінат, аўтапарк, трэст сталовых і рэстаранаў і іншыя — усяго 84 арганізацыі — 1890 чалавек, што больш, чым летась. І зноў больш за палову маіх сясцёр па няшчасцю?

**ВЫСНОВА ДРУГАЯ:**
**У беспрацоўя маладзёжны твар**

Для пачатку наступныя лічбы. Сярод беспрацоўных Наваполацка (ва ўзросце да 18 гадоў) — 70 чалавек, ад 18 да 25—579, ад 26 да 30—256, ад 31 да 40 — 423, пасля 40—253 чалавекі. Як бачна, 57,2 працэнта ад агульнай колькасці складаюць беспрацоўныя ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў. 1272 чалавекі з 1581 зарэгістраванага ў цэнтры занятасці маюць сярэднюю і сярэднюю спецыяльную адукацыі. Дарэчы, як адзначылі ў цэнтры, раней на ўліку стаяла больш беспрацоўных, якія маюць вышэйшую адукацыю. З гадамі, як і павінна быць, яны знайшлі сваё месца на рынку працы: адны стварылі ўласныя прадпрыемствы, другія знайшлі работу ў дзяржаўных структурах, трэція пайшлі на базар... Але складанасці на рынку працы, падзенне вытворчасці, скарачэнне штатаў знізілі колькасць вакантных рабочых месцаў. Вядома, супрацоўнікі цэнтра занятасці прапаноўваюць перападрыхтоўку, асваенне шэрага неабходных на рынку працы прафесій. Але на прадпрыемствах у першую чаргу патрабуюцца высокакваліфікаваныя спецыялісты... Таму моладзь сёння і застаецца за бортам.

Вось і мяркуйце, дзяржаўныя мужы, што трэба рабіць?

**ВЫСНОВА ТРЭЦЯЯ:**
**Гэтыя лічбы — толькі вяршыня айсберга, а што пад вадой?**

А пад вадой не адна тысяча беспрацоўных, якія і складаюць фактычнае беспрацоўе. Хто падлічыў трохдзёнкі, чатырохдзёнкі, па якіх працавалі наваполацкія прадпрыемствы, вымушаныя адпачынкі, у якія «добраахвотна» адпраўляліся рабочыя і служачыя, і нават тыя гадзіны, калі проста не было поўнай загрузкі вытворчасці, але знаходзіцца на рабочым месцы трэба было абавязкова. Наўрад ці хто валодае такой статыстыкай. Ды нават калі б і знайшліся такія лічбы, і яны не адпавядалі б рэчаіснасці.

У праграме занятасці насельніцтва горада на 1996 год, зацверджанай рашэннем Наваполацкага гарвыканкома, пацвярджаецца гэта думка: «Расце скрытае беспрацоўе, — запісана ў ёй. — У той жа час затрыманы рост адкрытага беспрацоўя». І тым не менш, «па прагнозах, у 1996 годзе паступленне рабочай сілы на рынак працы чакаецца ў колькасці 12.170 чалавек... Колькасць беспрацоўных, якія застануцца на ўліку ў гарадской службе занятасці на 1.01.97 года, можа ўзрасці да 2435 чалавек, або 4 працэнтаў эканамічна актыўнага насельніцтва»...

...Па прагнозах, у гэтым годзе на рынак працы рэспублікі будзе выкінута каля 900 тысяч беспрацоўных. Не апошняе месца ў гэтым лідэрстве зойме, пэўна, і Наваполацк. Але, на мой погляд, менавіта ў нашым горадзе з яго магутным нафтаперапрацоўчым комплексам і наладжанымі міжнароднымі сувязямі ёсць шмат магчымасцей для стварэння новых рабочых месцаў. Справа за малым — выкарыстаць гэтыя магчымасці.

**Л. ТРАПЕЗНІКАВА.**
**г. Наваполацк.**

## ШУМІЦЬ-БУШУЕ ГОМЕЛЬСКІ РЫНАК

Да двух з паловай тысяч у звычайныя дні і яшчэ больш на тысячу ў выхадныя прыязджаюць на Гомельскі цэнтральны калгасны рынак людзі са сваім таварам. І многія сотні іх з Чарнігаўскай, Кіеўскай, Харкаўскай, Сумской, Днепрапятроўскай, Вінніцкай і іншых абласцей Украіны. Прадаўцы суседняй краіны, якія гандлююць не толькі на гэтым рынку, але і на прылеглых да яго вуліцах (так званым — «праспекце Краўчука»), вязуць у горад над Сожам сала, каўбасу, спіртныя напоі, масла, алей, якія там танней, чым у нашай рэспубліцы. Натуральна, і прадаюць іх танней, чым у беларускіх магазінах (сала, напрыклад, на дзесяць-адзінаццаць тысяч рублёў).

А што ж вязуць ад нас? Долары, якія на сваёй радзіме затым абменьваюць на купоны, шпалеры, запалкі, трыкатажныя вырабы і інш. Прадаюць іх, робяць маленькі бізнес і — зноў у Гомель. Так і жывуць, так і круцяцца.

Прыток украінцаў- у горад над Сожам яго жыхарам выгадны, яны могуць выбіраць тавары на любы густ па ніжэйшай, чым у магазінах, цане. Выгадны ён і рынку, бо за кожнае гандлёвае месца яго работнікі збіраюць па пяць тысяч рублёў. А калі яны (месцы) арандуюцца прадпрымальнікамі на працяглы час, то за месяц з іх бярэцца плата недзе каля мільёна рублёў. Прыбытак адміністрацыя рынку пускае на яго добраўпарадкаванне і стварэнне новых гандлёвых месцаў. Так што прыязджайце да нас, спадары-ўкраінцы, і далей. Выгада ад гэтага будзе і вам, і нам.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*РОЗГАЛАС*

## ЗА БЕДНАГА НАСТАЎНІКА ЗАКІНЬЦЕ СЛОВА

**Цікава, чаму так склалася, што прафесія настаўніка даўно стала жаночай прывілеяй? Ці не з прычыны яе нізкааплатнасці? На самай справе, хіба пад сілу галаве сям'і ўтрымліваць яе за настаўніцкую зарплату? Таму ўвесь цяжар і адказнасць за выхаванне нашых дзяцей кладзецца менавіта на жаночыя плечы, і ніхто не задумваецца над тым, як цяжка быць жанчынай і настаўніцай адначасова. І ўсё ж, як жыве наш шматпакутны настаўнік пасля славутага павышэння з 1 студзеня аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы?**

Стаўкі заработнай платы педагогаў з гэтага часу павялічыліся аж на 14 — 21,8 працэнта з улікам уключэння ў іх сум індэксацыі (па ацэнцы снежня) у памеры 87,0 тысячы рублёў; кіраўнікоў навучальных устаноў — на 18,3—27,9 працэнта. Цяпер настаўнік сярэдняй школы з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй будзе атрымліваць на стаўку 468.930 рублёў, з вышэйшай адукацыяй (адразу пасля заканчэння ВНУ) — 525.800 руб., вышэйшай катэгорыі — 638.000 рублёў плюс 127.600 рублёў (даплата за стаж работы). Такая пякельная праца, як праверка сшыткаў па рускай і беларускай мове, ацэнена дзяржавай у 80 тысяч рублёў, а па іншых прадметах яшчэ танней. А класнае кіраўніцтва, відаць, з прычыны сваёй сімвалічнай аплаты — 130 тысяч руб. — ператвараецца ў нешта накшталт грамадскай нагрузкі.

Сярэдняя зарплата моваведаў мінскай гімназіі № 198 склала ў снежні мінулага года 931.700 рублёў пры нагрузцы 1,4 стаўкі на аднаго настаўніка, а ў СШ № 144 — 798.000 рублёў. І калі хто-небудзь з бюджэтнікаў пазайздросціць магчымасці настаўнікаў «падзарабіць», набраўшы больш вучэбных гадзін (настаўніцкая стаўка ў 5—11 класах — 18 гадзін у тыдзень), няхай не спяшаецца падлічваць чужыя грошы. Кожны клас, узяты звыш нормы, азначае яшчэ адзін стос сшыткаў, азначае, што настаўнік будзе ўдзяляць менш часу класнаму кіраўніцтву і, нарэшце, уласнай сям'і.

Як, скажыце, абцяжараны такімі жыццёвымі клопатамі настаўнік, пераступаючы парог школы можа сеяць «добрае, вечнае»? Прычым калі вопытны выкладчык можа паручыцца за тое, што якасць яго выкладання ні ў чым не страціць ад павялічанай нагрузкі, гэтага ніяк нельга сказаць аб маладых спецыялістах, якія прыйшлі ў школу з ВНУ. Нізкааплатная праца не можа прыцягваць моладзь, вось і ўцякаюць выкладчыцкія кадры са школы. Сёння тут не хапае не толькі настаўнікаў беларускай і замежнай мовы, да чаго ўсе даўно прызвычаіліся, але і гісторыі, фізкультуры.

У школе застаецца ўсё менш выпадковых людзей, бо настаўнік — гэта не прафесія, а прызванне і любоў на ўсё жыццё. Але любоў без сілкавання таксама гасне?!

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## «МАТРЫЯРХАТ» — ШТО МОЖА БЫЦЬ ЛЕПШ?

**Спецыяльны «сямейны» дзень уведзены на Віцебскім вучэбна-вытворчым прадпрыемстве (ВВП) таварыства глухіх для жанчын. Раз у месяц яго работніцы маюць права на дадатковы выхадны для вырашэння бытавых праблем.**

Мужчыны высакародна мірацца з гэтым «нераўнапраўем», як і з тым, што курцам тут знімаюць 15 працэнтаў прэміі за паяўленне з цыгарэтай на рабочым месцы. Апошніх, на жаль, з-за спаду вытворчасці за апошні год стала значна менш. Аднак веснавое свята калектыў сустракае з вялікай надзеяй: пасля 10 месяцаў прастою тут запрацаваў ткацкі ўчастак. Яго прадукцыю — эластычную стужку — ахвотна бяруць швейнікі, а таксама купляюць у магазінах краіны. Віцебскае ВА «Віцязь» атрымлівае з ВВП злучальныя жгуты і электрашнуры для сваіх апаратаў. Дарэчы, нядаўна вучэбна-вытворчае аб'яднанне ўзначаліла, змяніўшы на гэтай пасадзе мужчыну, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ мінулага склікання Таццяна Анісенка, якая пачынала працаваць у таварыстве яшчэ 35 гадоў назад у якасці перакладчыцы.

**Аляксандр ТУЛБУСАЎ.**

## «МАРТАЎСКАЕ» ПІВА Ў САКАВІКУ

Новы гатунак піва з'явіўся ў сталічных крамах. Смак цёмнага напою мацункам 14,5 градуса, магу засведчыць, выдатны. Адно засмучае: назва «Мартаўскае» — менавіта гэта дзіўнае слова выведзена на этыкетцы. Няўжо прыкрая трасянка з мовы неадукаванага насельніцтва становіцца мовай афіцыйнай? Няўжо на Лідскім бровары, дарэчы, найстарэйшым у краіне, забыліся, як па-беларуску гучыць першы месяц вясны?

**Ігар АНДРЭЙЧАНКА.**

# ІЗГОЙ

**Бескаравайны Віктар Данілавіч, 66 гадоў, асабліва небяспечны злачынца. 15 судзімасцей, увогуле прыгавораны да 51 года і трох месяцаў зняволення, апошні раз — да пяці гадоў калоніі асобага рэжыму, дзе сёння і знаходзіцца.**

ТАКОЙ БІЯГРАФІЯЙ, шчыра кажучы, трэба пужаць непаслухмяных дзяцей. Так і бачыцца мацёры «зэк», на якім жывога месца няма ад наколак, з «беламорынай» у зубах, з поглядам, ад якога дрыжыкі ідуць па спіне. Так нас выхавалі: гэта недзе ў Багдадзе злодзей можа быць і сімпатычным, і вясёлым, і абавязкова вартым спачування, а ў нас рэцыдывіст — гэта заўсёды адмоўная асоба.

Перада мной сядзіць невысокі хударлявы чалавек у фуфайцы, на якой нашыта белая лапіна з прозвішчам. Рукі расплюшчаныя, з уздутымі венамі — рабочыя рукі. Крыху ўсмешлівы, гаваркі («Гэта я цяпер шмат расказваю, у маладосці маўчуном быў, таму, напэўна, і выжыў). Прычым у размове адчуваецца не тое што «падкаванасць», але пэўная і даволі трывалая начытанасць. Потым я даведаюся, што ў час сваіх ранейшых «адседак» чытаў вельмі шмат, выпісваў перыёдыкі на 100, а то і больш рублёў. Найбольш прываблівaў часопіс «Вокруг света», а «Звязда» была любімай газетай.

Не, зусім не героя хачу зрабіць я з «зэка» Бескаравайнага. Але не спачуваць гэтаму чалавеку немагчыма. Вялікая яго віна ў тым, што жыццё, цэлае жыццё, аказалася збэшчаным, абрабаваным. Але чаму так здарылася? Нехта ж справядліва зазначыў, што зразумець — гэта значыць дараваць.

Нарадзіўся Віктар у 1929 годзе ў Рэчыцы. Бацька працаваў на фанернай фабрыцы, маці займалася хатняй гаспадаркай. Вайна не абмінула гэту сям'ю. Адна з сясцёр Віктара загінула ад рук акупантаў, была актывісткай, камсамолкай, дапамагала партызанам. Другую сястру немцы вывезлі ў Германію, там і згубілася назаўжды. Пасля вызвалення бацька аддаў Віктара ў ФЗВ — вучыцца на сталяра. Старэйшае пакаленне добра памятае, што сабой уяўляла тагачаснае фабрычна-заводскае навучанне. Амаль казарменная дысцыпліна, паўгалоднае існаванне. У жніўні Віктару споўнілася шаснаццаць, а ў лістападзе ён учыніў злачынства: залез у сталовую вучылішча, украў каструлю пончыкаў, якую і з'елі ўсёй брыгадай. Хацелася есці, голад быў пастаянным спадарожнікам — гэта адно, але ж ужо і не хлопчыкі, на дзяўчат заглядваліся, хацелася быць перад імі смелымі. Але не той час, не той... Суд быў выязны і паказальны, прама ў ФЗВ. І далі злачынцу два гады лагераў, адправіўся ён па этапу аж у Краснаярскі край, на лесапавал.

І я лічу (як бы там хто ні спасылаўся на крымінальнасць яго ўчынку), што Бескаравайнага з поўным правам можна аднесці да ахвяр сталінскага рэжыму. Менавіта гэты рэжым надламаў маладую галіну, спыніў яе нармальны рост. І колькі такіх галін у тыя часы ці ўвогуле загінулі, ці атрымалі ненармальныя атожылкі.

Вярнуўся пасля двух гадоў Сібіры з «воўчым» білетам. Пра далейшую вучобу і гаварыць няма чаго, але і на працу не бяруць: па-першае, ніякай прафесіі, па другое, — «адтуль». Бацька, ужо стары чалавек, працягваў працаваць, карміў сына. Ну і сустрэліся такія ж сябры...

У сорак восьмым — новая судзімасць. Судзілі Бескаравайнага і па сталінскіх указах, і па артыкулах Крымінальнага кодэкса, але судзілі толькі за крадзяжы. Ён не рабаваў, не гвалтаваў, не прымяняў сілу. Аднойчы толькі ў Аршанскай калоніі вымушаны быў уступіць у бойку, абараняцца. За гэта атрымаў дадаткова тры гады і тры месяцы. На волі пасля чарговага выхаду са зняволення заставаўся, як правіла, некалькі месяцаў: не сустракала грамадства рэцыдывіста з абдымкамі. Ды што там абдымкі, вельмі хутка адчуў ён сябе ізгоем. Два разы быў амніціраваны. Першы раз — пры Берыі ў 53-м, але ненадоўга. Другі раз — пры Хрушчове ў 59-м. Тады Мікіта Сяргеевіч аб'явіў аб блізкім камунізме, а пры камунізме ж турмаў не бывае. Вось і паехалі па ўсіх месцах зняволення камісіі, а па сутнасці суды — з пракурорамі, суддзямі, адвакатамі. Разбіралі кожную справу, кожны лёс. Паверылі і яму. Вярнуўся на радзіму, вырашыў усур'ёз парваць са старым. Ажаніўся нават. Але работы так і не знайшоў. Паўсюль вісяць аб'явы: патрабуюцца... Спецыяльнасцей жа на той час Віктар Данілавіч прыдбаў нямала — маляр, тынкоўшчык, плітачнік. Звернецца ў аддзел кадраў — канечне, патрэбен. Але як толькі пакажа даведку аб вызваленні — «Прыйдзіце праз тыдзень». Зразумела, што праз тыдзень месца ўжо занята. А тут, як заўсёды, з'явіліся сябры, бутэлька. І ўсё закруцілася па-старому. Страціў Бескаравайны жонку, так і не нажыў дзяцей.

Былі ў яго ў маладыя гады чатыры ўцёкі з лагераў. І ўсе чатыры ўдалыя. «Каб няўдалыя, — усміхаецца, — мяне б ужо і ў жывых не было. У тыя часы ахова, калі зловіць ў тайзе, жывым не пакідала. Бывае, прывядуць да вахты, застрэляць і кінуць на некалькі дзён, каб астатнія бачылі і не адважваліся». Але яму шанцавала.

Аднойчы ўцякаў з Ветлага, гэта ў Кіраўскай вобласці, страшны быў лагер. Голад, здзекі, цяжкая праца. І не вытрымала душа ў маладога яшчэ Бескаравайнага, вырашыў уцякаць. Заўважыў, што пры пагрузцы драўніны ў вагоны ахова не такая і пільная, а перад адпраўленнем ахоўнік з сабакам ідзе ўздоўж вагонаў, часам нават крычыць: «А ну вылазь, а то застрэлю!» Ды гэта толькі для формы, нікуды не зазірае.

Вось і папрасіў таварышаў, уладкавалі свабоднае месца ў вагоне, з усіх бакоў абставілі стосамі дошак, толькі да люка выхад. Як заўжды прайшоў ахоўнік з сабакам. Пастрашыў. З сабой у Віктара толькі курыва ды запалкі. Саскочыў з цягніка, потым чацвёра сутак ішоў каля чыгункі да «Вялікай зямлі», да транспартных магістраляў, дзе лягчэй сесці ўжо ў цягнік, які ідзе ў цэнтральную частку краіны.

Уцякаў і з Краслага, які быў ці не адным з самых страшных у Сібіры. Пераадолеў загароды, таксама шмат сутак паназіраўшы за аховай. Дапамог дождж: ён дазволіў падабрацца да самай «вахты», пералезці праз агароджу прама на ганак. А ўжо адтуль сышоў не хаваючыся. Вартавыя з дзвюх суседніх вышак бачылі яго. Але хто падумае, што чалавек, які свабодна ідзе ад «вахты», уцякач? Ішоў да магістралі 11 сутак. Потым начальнік лагера, калі праз некалькі гадоў Бескаравайны зноў трапіў сюды, усё дапытваўся: «Як уцёк? Раскажы, нічога не будзе». Але ўцякач маўчаў.

— Скажыце, Віктар Данілавіч, ну вось дайшлі вы да магістралі, селі ў цягнік, але ж ні вопраткі, ні грошай.

— Ну, гэта ўжо здабывалася лягчэй...

Зразумела, за кожны ўцёк пры новым арышце і судзе яму дабаўлялі тэрмін. Так і жыў: некалькі месяцаў на волі, потым гады і гады турмы.

Перад апошнім злачынствам Бескаравайны быў на волі больш года, восем месяцаў адпрацаваў пад Белгарадам у Марфа-Марыінскім манастыры. Але пацягнула на радзіму. Прыехаў у Рэчыцу, а бацькоўскага дома няма. На месцы тых дамочкаў, што былі звычныя з дзяцінства, вялікая школа. Высветліў, што за дом была выдзелена кватэра. Пляменніца, дачка той сястры, што знікла ў Германіі, прадала яе і выехала немаведама куды. Зноў няма ні работы, ні кута, дзе б можна было прыхінуцца, памыць адзенне, паспаць. Жыў у падвалах. Потым скончыліся грошы. Віктар Данілавіч сцвярджае, што звяртаўся па дапамогу. Але хто ў наш час дапаможа злодзею-рэцыдывісту. Тут і нармальныя грамадзяне беспрацоўныя.

Таму і залез у кватэру, знайшоў пяцьдзесят тысяч, нейкую дробязь яшчэ. З гэтым і прыйшоў у міліцыю: здаюся. Але апаратыўнікам было не да яго. Папрасілі пачакаць. Чакаў гадзіну, другую. Потым устаў, пайшоў у краму па бутэльку віна...

Але праз некалькі дзён зноў адчуў безвыходнасць свайго існавання. Цяпер ужо «паставіў» кватэру па-сапраўднаму. Украў два пярсцёнкі, залаты ланцужок, два мужчынскія касцюмы. Прадаў усё гэта за тры з паловай мільёны. Ну і «закруціўся» на нейкі час. Калі ж грошы і цыгарэты скончыліся, зноў звярнуўся ў міліцыю. Зноў папрасілі пачакаць. Але тут высветлілася, што ёсць заява ад пацярпеўшага. Арыштавалі. Прынамсі, гэта версія самога Віктара Данілавіча. Здзіўлены ён толькі, што суд адмераў яму ажно пяць гадоў асобага рэжыму. Мнагавата. Дык жа асабліва небяспечны.

Уласна кажучы, турмы і тэрміну ён не баіцца, прызвычаіўся. Вельмі трывожыць толькі тое, што ж будзе пасля выхаду са зняволення. Зноў ізгой?

Па ўсім відаць, так. «Хоць бы які дом для састарэлых. Я ж працы не баюся». Гэта праўда, працы Віктар Данілавіч не баяўся. Гэта пацвярджаюць і ў Глыбоцкай калоніі, дзе ён цяпер сядзіць. Бескаравайны быў ужо тут, і ажно сем гадоў, раней. Працаваў старанна. Ды толькі і такім, як ён, тэрмін не скарачаюць. Увогуле ж Віктар Данілавіч за сваё жыццё для гэтай краіны зрабіў нямала: валіў лес у Сібіры, будаваў чыгункі, працаваў на самай поўначы ў Ігарцы, Дудзінцы, Нарыльску.

— Віктар Данілавіч, вы помніце яшчэ сталінскі лагер, уласна кажучы, на вас эксперыментавалі ўсе далейшыя рэжымы гэтых установ. А калі параўнаць?

—Ну, пры Сталіне ўсё было супраць чалавека. Хаця б ежа. Я вось сёння на снеданне не пайшоў, але мне ўсё роўна дваццаць грамаў масла, цукар, трыста грамаў белага. Чыфіру зварыў, карысны ён, чыфір, для здароўя, я і сёння сябе адчуваю няблага — усё ад яго. У абед будзе боршч, каша з перацёртым мясам. А тады нас кармілі вельмі дрэнна. Колькі было дыстрофікаў, колькі хворых. У карцэры ці ў ізалятары тады кармілі толькі праз два дні на трэці.

Што казаць, цяпер ставяцца як да людзей. І пасылкі, і з роднымі сустрэцца можна, і тэлевізар. Бібліятэка, праўда, стала бяднейшая ў параўнанні з мінулым. Няма грошай. Але ўсё роўна атмасфера цяжкая. Самае галоўнае — няма працы. Не віна гэта адміністрацыі, усюды так. Але ў нас адчуваецца асабліва, мы ж не на волі. Цэлымі днямі не ведаеш, куды сябе дзець. Тут пачынаецца і гульня «на інтарэс», ды і ўсё іншае. Вось у нас у інтэрнаце 38 чалавек, а на работу ходзяць толькі дзесяць. Толькі чалавек пяць з нас могуць разлічваць на дапамогу з дому. А тыя ж цыгарэты за што купіць? Дзякуй «хазяіну», хоць табакі нам дастае, неяк перабіваемся. Але без работы вельмі цяжка».

— Віктар Данілавіч, вам сядзець тут яшчэ чатыры з паловай гады. Нямала. Можа, якое пажаданне, зварот?

— Тым, хто выходзіць на волю, дайце хоць бы якую зачэпку ў жыцці, не пакідайце людзей сам-насам з безвыходнасцю і адчаем. І вось пабачыце, тады нас стане значна менш, ваша жыццё будзе і больш спакойным, і больш бяспечным.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**



Фота Сяргея ВАСІЛЬЕВА.

# НОЖЫК

ЮЛЯ ЖЫВЕ БЕЗ БУЛЬБЫ. Калі ў кватэры адна. Калі прыходзіць малодшы сын, тады бульба на стале будзе. Старэйшы сын служыць у арміі.

Юля не рэжа хлеб. Бохан ламае на кавалкі і так ужывае.

Юлю трасе ад ножыка. Ёй толькі пакажы ножык — самы бяскрыўдны, кухонны — і яна можа страціць прытомнасць.

У Юлі з ножыкам асацыяцыі.

Яна другі раз выйшла замуж.

Жанчынка яна прыгожая, а прыгожым не шанцуе. У прыгожых звычайна лёс нешчаслівы.

Першы муж Юлі памёр ад вытворчай траўмы. Так гэта афармілі, каб удаве з дзіцем нешта перападала ад дзяржавы.

Першы муж любіў хапацца за нож. Быў раўнівы і, як віп'е, браў ножык і пачынаў Юлю палохаць.

З работы дамоў яна не ішла, а ляцела.

«Дзе была?» — яна баялася гэтага пытання, калі, крый Божа, спазнялася хоць бы на паўгадзіны.

Страх спазніцца дамоў зрабіў Юлю дзікункай. У калектыве на яе махнулі рукой. На прафсаюзны сход яна не застанецца, адзначыць на рабоце дзень нараджэння — што вы?

А жанчына ж была вясёлая і танцаваць любіла. Кампанейская.

Юля стала іншай.

У водпуск яна нікуды не ездзіла, а ў сталічным метро — гэта было летась, калі накіравалі яе на лячэнне ў Мінск, — разгубілася: не ведала, куды ўкінуць жэтончык.

Юля другі раз выйшла замуж гадоў дзесяць назад. Яна давала сабе зарок з мужчынамі больш не звязвацца, тым не менш, сэрцу не загадаеш, але, хутчэй, патрабавала свайго прырода.

У яе была чорная гафрыраваная спадніца і белая кофтачка. Юля мне паказвала фотакартку.

Такую жанчыну трэба было цаніць. Вяселле згулялі сціпла. Новаму мужу спатрэбілася дабавіць. Гэты ідыёт узяў у рукі нешта бліскучае і пайшоў на чыгунку. Там перастрэў жанчыну і адабраў сумачку з талонамі на цукар і нейкімі капейкамі.

Жанчына, якую ён абрабаваў, вярталася з яго... вяселля. І, вядома, рабаўніка пазнала.

Маладога пасадзілі. Юля рабіла ўсё, каб выратаваць мужа ад кратаў. Але суддзя — жанчына — спытала ў яго:

— У вас быў нож?

І ён прызнаўся. Быў.

А ўбівалі ж дурню ў галаву, што гэта была алюмініевая расчоска.

Самае цікавае, што мужаў нож з выкідным лязом тады ляжаў дома. А разбойнік хадзіў па здабычу сапраўды з расчоскай. Але ў п'янага мужыка ўсё ў галаве перабліталася.

Пасля таго Юля не можа глядзець на нажы.

Яе калоціць.

Не ведаю, вылечылі Юлю ад неўрозу ці не, бо нашы бальнічныя шляхі больш не перасякаліся.

А ўзяўся я за пяро не дзеля таго, каб паказытаць пачуцці чытаючай публікі шчымлівай гісторыяй. Другі муж Юлі, аказваецца, ужо сядзеў. І нож з выкідным лязом прывёз ён з «зоны». Амаль такі ж, якія зараз свабодна прадаюць у камерцыйных кіёсках па 25 тысяч рублёў.

Ці падумаў хто-небудзь пра магчымыя паламаныя лёсы?

Дзеянне балончыка з атрутным газам на сабе я зведаў. Пад нос мне пырснулі толькі таму, што даўганогай дзяўчынцы зрабіў заўвагу: гуляй з сабакам, але ў наморднiку.

А міліцыя скардзіцца: грамадскасць не дапамагае. Дык паспрабуй жа дапамагчы. Цябе можа «вырубіць» любы саплівы шчанюк толькі таму, што ў яго ёсць грошы, а электрашокеры, якія навязліва рэкламуе абласное радыё, можна без праблем набыць, скажам, у Магілёўскім ДК швейнікаў,.

А яшчэ камерсанты накуплялі рознай піратэхнікі, і дзеці «страляюць» прама на школьных дварах. Гучыць — як з пісталета Макарава.

Юлі робіцца дрэнна ад аднаго выгляду нажа.

Людзі старэйшага пакалення ад такіх стрэлаў выконваюць каманду «кладзіся».

Грамадства ўзбройваецца. Не страшна?

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**



# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## Шкло не запацее

У халоднае надвор'е задняе шкло аўтамабіля пацее.

Кавалак цэлафану намачыце ў вадзе, прыкладзіце да ўнутранай паверхні шкла і старанна разгладжвайце да таго часу, пакуль з-пад яго не выйдзе паветра. Затым па ўсяму перыметру замацуйце цэлафан стужкай лейкапластыра, а па краі гэтай стужкі прайдзіцеся яшчэ пэндзлем, намочаным у нітралаку. Цяпер можаце быць упэўнены — шкло не запацее.

## Дапаможа звычайная вада

Калі ў вас у дарозе скончылася паліва, зліваць тое, што засталося на дне бензабака, у бачок абмывальніка, як гэта звычайна робяць, не заўсёды зручна. Могуць перашкодзіць цемра ці дрэннае надвор'е. Уліце ў бензабак каля паўлітра вады. Яна выцесніць бензін з дна на ўзровень паліўнай трубкі, што дазволіць вам даехаць да дому.

Гэтай парадай не змогуць карыстацца ўладальнікі машын з гарызантальным паліўным бакам.

## Як і які выбраць аўтамабіль

### Частка апошняя

Пасля агляду аўтамабіля папрасіце завесці рухавік. Лепш, каб гэта зрабіў сам гаспадар, таму што кожны рухавік мае свае асаблівасці і патрабуе пэўнага навыку пры пуску. Пасля некалькіх хвілін прыслухайцеся да яго работы: ці няма стукаў у рухавіку клапаннага механізма або шатунна-поршневай групы.

Трэба звярнуць увагу на колер і гушчыню выхлапных газаў пры рабоце як на малых абаротах, так і на павышаных. Калі выхлапныя газы маюць шэры колер, то ўсё ў парадку, вядома, з выхлапной трубы не павінны вылятаць аблокі. Калі колер сіняваты, то гэта гаворыць пра зношанасць кольцаў, калі дым чорны — то аб лішку паліва (звычайна кажуць: «карбюратар пералівае»).

Рухавік прагрэўся, частата вярчэння каленчатага вала ўстанавілася і нават крыху павялічылася ў параўнанні з першапачатковай, стрэлка паказчыка тэмпературы ахаладжальнай вадкасці паказвае больш як 70° — можна пачынаць дарожныя выпрабаванні.

Перад пачаткам руху неабходна праверыць работу счаплення і тармазнога механізма. Для гэтага націсніце на педаль кіравання механізмам счаплення і прыслухайцеся да работы: калі пры гэтым з'явіўся шыпячы гук, то гэта значыць, што ўпорны падшыпнік зламаўся і яго трэба замяніць.

Затым, уключыўшы першую перадачу, пачніце рух, праедзьце некалькі метраў, спыніцеся і праедзьце назад. Калі пры гэтым пачуеце нейкі гук — у трансмісіі вялікая зношанасць. Звонкі гук падкажа месца пошуку ў кардannай перадачы, глухі — у каробцы перадач або ў вядучым мосце.

Затым правяраюць работу самога механізма счаплення, для чаго прытармажваюць аўтамабіль стаяначным тормазам, выціскаюць педаль механізма счаплення, уключаюць другую перадачу і, павялічваючы газ, паступова адпускаюць педаль механізма ўключэння счаплення. У выпадку, калі рухавік працягвае працаваць, а аўтамабіль не кранаецца, — ручны тормаз у спраўнасці, а дыск механізма счаплення мае вялікую зношанасць.

Пры праверцы рабочага тармазнога механізма робяць так: выціскаюць педаль механізма счаплення, уключаючы першую перадачу, націскаюць аднaчасова правай нагой на педаль газу і педаль тормазу (напрыклад, наском на тормаз, а пяткай — на газ). Калі пры гэтым аўтамабіль пачне рухацца — тармазны рабочы механізм няспраўны.

Праверка на месцы закончана, можна праводзіць дарожныя выпрабаванні.

Развіўшы скорасць аўтамабіля да 60 км/гадз, рэзка прытармажваюць — аўтамабіль пры гэтым не павінна весці ні ўправа, ні ўлева. Пры паваротах кузаў аўтамабіля не павінен рэзка нахіляцца, лішні крэн паказвае на неабходнасць замены амартызатараў.

Пры руху аўтамабіля на чацвёртай перадачы са скорасцю 40—50 км/гадз трэба рэзка націснуць на педаль прываду дросельнай закрыўкі карбюратара і прыслухацца да работы рухавіка: з'яўленне звонкіх стукаў паведамляе пра правільную ўстаноўку вугла апярэджвання запальвання.

Для наступнага выпрабавання неабходна выбраць прамы ўчастак дарогі. Развіўшы скорасць аўтамабіля да 40 км/гадз, пры спрыяльных дарожных абставінах (адсутнасць транспарту) адпусціце рулявое кола: аўтамабіль павінен рухацца прамалінейна або крышачку зрушвацца ў бок бакавога ўхілу, калі ён ёсць.

Не трэба адмаўляцца і ад праверкі работы аўтамабіля на павялічаных скорасцях для вызначэння магчымых вібрацый на пераходных рэжымах.

Калі аўтамабіль прайшоў агляд, усе выпрабаванні і няма асобных заўваг, — можна афармляць пакупку.




## Аэразоль па-хатняму

Не спяшайцеся выкідваць выкарыстаныя аэразольныя балоны. Яны вам яшчэ паслужаць. У корпусе прасвідруйце дзірку памерам 8 мм, у якую запаяйце абрэзаны штуцэр ніпеля ад веласіпеднай камеры. Праз яго заліваецца неабходная вадкасць (фарба, лак і інш.). Замацаваўшы ніпель і запоўніўшы балон паветрам пры дапамозе веласіпеднай помпы, вы атрымаеце распыляльнік, гатовы да работы. Такім распыляльнікам вельмі зручна падфарбоўваць дробныя часткі аўтамабіля.

## Шыем чахлы самі



Шматлікія хатнія майстры адчуваюць цяжкасці пры шыцці аўтамабільных чахлоў ці чахлоў для мяккай мэблі.

Для шыцця чахлоў ці якой-небудзь абіўкі вельмі зручна карыстацца шаршаткай, якую лёгка зрабіць са сталёвага дроту таўшчынёй 2-3 мм. Кавалак дроту таўшчынёй 40—100 мм трэба загнуць, адзін канец затачыць, а другі расплясканць і прасвідраваць у ім дзірку для ніткі. Саму іголку адпаліраваць.

## Парады майстроў

На знятым барабане часам знаходзяць шурпатасці — сляды зношанасці. Шурпатасці неабходна зачысціць, каб не зношваліся новыя калодкі. Для гэтага не абавязкова мець станок: паварочваюць барабан і прымацоўваюць яго да фланца паўвосі балтамі (ці гайкамі). Уключыце рухавік і, варочаючы барабан са скорасцю 10—20 км/гадз, шаберам ці напільнікам выраўноўваюць паверхню і зачышчаюць яе наждачнай паперай. Пасля гэтага можна рабіць замену тармазных калодак.

•

Для змазвання пракладак, ушчыльнення стыкаў і разьбовых злучэнняў выкарыстоўвайце невысыхаючы герметык, зроблены наступным чынам: дабавіць да аўтаэмалі 10 працэнтаў касторавага масла, змяшаць і пакінуць сумесь у адкрытым посудзе ў цёплым месцы. Праз некалькі дзён нітрарастваральнік знікне. Сумесь загусцее, і герметык гатовы. Герметыку не шкодзіць бензін і мінеральнае масла. Ён ніколі не высахне.

•

Гаспадарчае мыла не раствараецца ў бензіне. Таму ім можна замазаць месца падцёку бензіну, у тым ліку і разьбу штуцэра бензаправода.

## Зручная антэна

Верхні багажнік аўтамабіля можа служыць у якасці антэны, калі мацаванне багажніка заізаляваць ад даху. Провад ад прыёмніка можна прапусціць у дзвярны праём, схаваўшы яго пад рызіну.

**Вядучы рубрыкі Уладзімір НАЗАРАЎ.**

У ВОЛЬНУЮ ГАДЗІНУ

У ВОЛЬНУЮ ГАДЗІНУ У ВОЛЬНУЮ ГАДЗІНУ У ВОЛЬНУЮ ГАДЗІНУ

## КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

Перакладзіце на беларускую мову наступныя словы: 1. Клевер. 2. Покушение. 3. Ярмарка. 4. Пробел. 5. Мерёжа. 6. Побег, росток. 7. Молодая луна. 8. Сумерки. 9. Любимая. 10. Приказ. 11. Зачинщик. 12. Ковёр. 13. Полугодовалый теленок. 14. Вооружение. 15. Знаток. 16. Дроги. 17. Властелин. 18. Огузок (часть туши). 19. Приложение. 20. Боров (у дымохода). 21. Известь. 2. Пасть. 23. Основание. 24. Налог. 25. Корка. 26. Поджог. 27. Падающая звезда. 28. Нищий. 29. Обносок. 30. Туча. 31. Хозяйка. 32. Очерк. 33. Усталость. 34. Колодка (сапожная). 35. Обращение. 36. Крышка.

**Склала Людміла АНТАНОВІЧ.**
*Лунінецкі раён, в. Багданаўка.*



## КРЫПТАГРАМА



Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках малюнка словы вядомай народнай мудрасці.

А) 1-2-3-4 — закончаная частка, дзея драматычнага твора.

Б) 5-6-7-8-9-10-11-4 — мнагалюднае, звычайна ўрачыстае шэсце.

В) 12-13-14-15-16 — карчма, старая назва крамы для продажу напояў.

Г) 17-7-18-19-10 — бальны танец.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**
*Лагойскі раён, в. Гайна.*

## АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**Крыжаванка (2 сакавіка). Па гарызанталях:** 3. Эфес. 5. Арлі. 9. Шчара. 10. Анапа. 11. Машук. 13. Імпічмент. 15. Праезд. 17. Батрак. 18. Ранча. 19. «Балабас». 22. Кадастр. 24. «Маладняк». 25. Бураўкін. 27. Транзіт. 28. Алідада. 30. Каток. 32. Элегія. 34. Агурок. 36. Кампраміс. 38. Сіноп. 39. Апока. 40. «Млада». 41. «Млын». 42. Азія. **Па вертыкалях**: 1. Афгані. 2. Клімат. 4. Снайпер. 5. Анафема. 6. Шчаўе. 7. Панчанка. 8. Дукат. 12. Краб. 14. Маёр. 16. «Дабрадзея». 17. «Будаўніца». 20. Лхаса. 21. Санет. 22. Карма. 23. Світа. 26. Інтэрпол. 27. Толь. 29. «Азот». 30. Камбайн. 31. Камбала. 33. Геній. 35. Улада. 36. Капэла. 37. Сімеіз.

**Цыклаграма (7 сакавіка).** 1. Памада. 2. «Тамара». 3. Ратару. 4. Даярка. 5. Скарга. 6. Кравец. 7. Канапа. 8. Пасада. 9. Панова. 10. Панама. 11. Саната. 12. Палата. 13. Марэна. 14. Сальда. 15. Разора. 16. Парада. 17. Наркоз. 18. Рапарт. 19. Рагожа. 20. Ганчар. 21. Чарада. 22. Артыст. 23. Баржом. 24. Градус. 25. Салiст. 26. Маштаб. 27. Сігнал. 28. Шпагат. 29. Апарат. 30. Барана. Па контуру малюнка — віншаванне: «Віншуем са святам, дарагія жанчыны!»

**Чайнворд (7 сакавіка).** 1. Барто. 2. Осіпава. 3. «Алеся». 4. Ядвіся. 5. «Янка». 6. Астра. 7. Арэпіна. 8. Аніта. 9. Атлас. 10. Сак. 11. Кім. 12. Міс. 13. Станюта. 14. Алігер. 15. Рут. 16. Трумо. 17. Ода. 18. «Аіда». 19. «Ася». 20. Явар. 21. Ручнік. 22. Крэм. 23. Міф. 24. Фата. 25. Ажына. 26. Абрус. 27. Сукенка. 28. Алмаз. 29. Загс.

## УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

**Дэлі, 13 сакавіка. (Кар. ІТАР-ТАСС Леанід Котаў.)**

Удзел у латарэі і нават азартныя гульні не проціпаказаны КАЗЯРОГУ, якога чакае выйгрыш ва ўсіх гэтых справах. Здароўе ў вас абяцае быць выдатным, а сямейнае жыццё прынясе адны задавальненні. На рабоце магчыма павышэнне, словам, наперадзе цудоўны тыдзень.

ВАДАЛЕІ-прадпрымальнікі, не здзіўляйцеся. Вы атрымаеце падтрымку, здараецца ж такое, ад дзяржаўных арганізацый. Нейкія панове, з прозвішчамі на літары «Б» і «Х» таксама кінуцца Вам на дапамогу. Сямейнае жыццё мінуюць узрушэнні, а ў хатніх гаспадынь аднекуль з'явяцца лішнія грошы на асабістыя расходы.

РЫБАМ пашанцуе і яны атрымаюць прыбытак дзякуючы прадпрымальным сябрам. Дзяржаўныя служачыя будуць пераведзены на «больш адказную пасаду». Вы можаце крыху расслабіцца ад работы і заняцца асабістым жыццём. А хто збіраўся прапанаваць руку і сэрца, той няхай адкіне сарамлівасць і вымавіць словы, якіх ад яго нехта вельмі чакае.

АВЕНАМ астролагі не раяць укладваць усе свае сродкі ў адзін праект. І не фінансуйце іншых, потым можаце пашкадаваць аб гэтым, ды будзе позна. Зоркі спрыяюць вашай асабістай кіпучай дзейнасці на ўсіх франтах, так што не губляйцеся. Магчыма, што вас возьме ў палон каханне, бо на дворы ўсё ж вясна.

ЦЯЛЬЦУ у будучых справах лепш спадзявацца на самога сябе і не слухаць чужых парад. Вас чакаюць многія клопаты, у тым ліку і важнейшыя рашэнні наконт фінансаў. Здароўе будзе не вельмі добрае, хоць нічога сур'ёзнага не здарыцца. Каханне адыдзе на другі план, хоць ненадоўга.

БЛІЗНЯТАМ трэба будзе ўпарта працаваць, каб дабіцца канкрэтных вынікаў. Тым, хто займае кіруючыя пасады, давядзецца выслухаць крытычныя водгукі аб сабе. Затое абстаноўка ў сям'і ў вас стане крыху лепшай. На думку астролагаў, дзякуючы таму, што прысутнасць на рабоце не пакіне часу на высвятленне адносінаў з дамачадцамі.

РАКАМ не варта быць занадта аптымістычнымі, не бярыце на сябе больш, чым зможаце зрабіць. Не спадзявайцеся на тых, каму не давяраеце. Калі справы пойдуць не так як трэба, дык адказваць за гэта давядзецца вам. Выздараўленне чакае тых, хто хварэў. А тыя, каму трэба раджаць, хутчэй за ўсё народзяць дзяўчынку.

Зоркі зычаць ІЛЬВАМ нейкія важныя перамены ў кар'еры. Кантракты, заключаныя ў пачатку тыдня, неадкладна прынясуць дывідэнды. Нейкія праблемы чакаюць тых, хто заняты гандлем з замежнымі партнёрамі. Закаханыя могуць развітацца, але толькі на час.

ДЗЕВЕ неабходна сканцэнтравацца на звычайнай рабоце, праявіць энтузіязм і забыцца пра стомленасць. Можна пачаць новую справу і не баяцца вялікіх укладанняў капіталу. Прадстаўніцам прыгожага полу выпадзе магчымасць заняцца сабой, што зусім не лішняе, паколькі зоркі спрыяюць рамантычным адносінам.

ШАЛЯМ астролагі не раяць выходзіць за рамкі руціннай работы, да якой варта ставіцца з асаблівай уважлівасцю. Любыя пачынанні і новаўвядзенні не прынясуць нічога добрага. Затое вам можна адпраўляцца ў замежны круіз і рыхтавацца да рамантычных прыгод у канцы тыдня.

У СКАРПІЁНАЎ на рабоце не адбудзецца нічога значнага, хоць варта апасацца імгненных рашэнняў. Дома крыху нездаровыя будуць бацькі, якія папросяць увагі да сябе. Рамантычная прыгода падыдзе к канцу, але затое шчасліваму.

СТРАЛЕЦ пачуе ў сераду паведамленне, якога доўга чакаў. Без асаблівых апасенняў можаце заключаць дзелавыя здзелкі, укладаць грошы, пачынаць супрацоўніцтва з новымі партнёрамі. Жанчын чакае прыбаўка да зарплаты, а ў хатніх гаспадынь аднекуль нечакана з'явяцца «незапланаваныя» грошы, якія яны могуць з задавальненнем патраціць на сябе ці на сваіх блізкіх.

## Панядзелак, 18 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст. Нерухомасць.
**8.00** «Мелодыі старога замка». Фільм-канцэрт.

**Тыдзень тэлебачання Малдовы**

**8.30** «Малдова субтэранэ». Відэафільм.
**8.55** «Унгенская кераміка». Тэленарыс.
**9.15** «Гаўрош». Маст. фільм для дзяцей.
**10.25** Фінансавы час.
**10.45** Гурман. Беларуская кухня і кухня народаў свету.
**11.05** Залатая ліра. Хіт-парад беларускай песні. Заключная праграма.
**12.20** Па вашых просьбах. «Загадка Эндхаўза» Маст. фільм.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Нядзеля, з 11 да 17». Кароткаметражны маст. фільм.
**15.30** «Як праводзяць канікулы Болек і Лёлек». Мультфільм (Польшча).
**16.35** Тэлебачанне — школе. Гісторыя. 8-ы клас. Культура Беларусі на пачатку XX стагоддзя.
**17.05** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Вяртанне ў легенду». Дак. фільм.
**17.35** На добры лад. Перадача з Гомеля.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Фінансавы час.
**18.20** Тэлеанонс.
**18.25** Эканамікст. Нерухомасць.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок», «Рызыка-версія».
**19.40** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма.
**19.55** Тэлевізійная прэс-канферэнцыя. Рэформы ў сярэдняй адукацыі. Прымае ўдзел міністр адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь В. І. Стражаў.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.45** Спартыўны тэлекур'ер.
**22.05** «Мараль пані Дульскай». Маст. фільм.
**23.40** Галасы мінуўшчыны. Старонкі фартэпіяннай музыкі.
**0.05** Навіны.

### ГРТ

**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Драконы падзямелляў». Мультсерыял.
**14.40** Марафон-15.
**15.00** Зорны час.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** Джэм.
**16.30** «Сем дзён спорту».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.05** «Мы». Аўтарская праграма У. Познера.
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.30** «Аперацыя».
**20.45** Праграма перадач.
**20.50** «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло».
**21.50** «Да і пасля...». Вядучы У. Малчанаў.
**22.35** Навіны.
**22.45** Лінія кіно. Фільм Розы Арынбасаравай «Ахвяра для імператара» да 1.20

### Канал «Расія»

**16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**16.20** Новая лінія. «Дэпеша».
**16.50** Ваш партнёр. «Банк адраджэння».
**17.15** Выратаванне 911.
**18.10** L-клуб.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** У. Санаеў у фільме «Вяртанне «Святога Лукі».
**21.50** Кліп-антракт. Валерыя.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Рэпарцёр.
**22.55—23.54** «Спрут-6». Маст. фільм (Італія). 10-я серыя.

### Санкт-Пецярбург

**13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**13.10** Хуткая дапамога.
**13.40** Парады садаводам.
**13.50, 15.10, 23.25** Музычны момант.
**14.05** «Першае каханне». Серыял.
**14.55** «Статуі над горадам». Тэлефільм.
**15.15** Стыль жыцця.
**15.40** «Нямецкая хваля».
**15.55** «Кучка старых». Маст. фільм (ЗША).
**17.20** Рэцэпт.
**17.30** «Страсці-мардасці».
**17.45** Тэлебліц.
**17.50** Спявай з намі.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.45** Тэлеслужба бяспекі.
**19.55** Ад першай асобы.
**20.05** «Казка на ноч». Маст. фільм (Расія).
**21.30** Экспрэс-кіно.
**22.00** Спорт, спорт, спорт...
**22.20** Дзень нараджэння.
**22.30** «Тэлекампакт». Музычнае шоу.
**23.10—23.30** Авертайм.

### Расійскія універсітэты

**7.30** Мір вашаму дому.
**7.40** СІВ. Навіны.
**7.50** Рукадзельніца.
**8.05** «Школ-фільм» для дзяцей. «Японская гравюра «Укіе-Э».
**8.25** Сярэдняя школа сёння.
**8.55** Чужыя?
**9.25** Ноу-хау.
**9.40** Гісторыя рускага жывапісу. «Сільвестр Шчадрын. Від Сарэнта паблізу Неапаля»; «К. Брулоў. Апошні дзень Пампеі». Дак. фільмы.
**10.00** Італьянская мова.
**10.30** СІВ. Навіны.
**10.35** Свет грошай Адама Сміта.
**11.05** Тэле-граф.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** «Вялікая амерыканская прырода». Фільм 10-ы. «Паўночныяалені».
**13.55** Медыцынскія навіны Расіі.
**14.00** Незабыўны тэатр. А. М. Астроўскі «На всякого мудреца довольно простоты». Спектакль тэатра ім. Яўгена Вахтангава, 1971 г. У ролях: Ю. Якаўлеў, М. Грыцэнка, Н. Плотнікаў, А. Казанская. Частка 1-я.
**15.25** «Руская песня ў душы». В. Дзевятаў.
**16.15** Грош у квадраце.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** НТБ прадстаўляе: анонс тыдня.
**17.05** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 101-я серыя (ЗША).
**17.30** Футбольны клуб.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Наша новае кіно. Аляксандр Сакураў. «Усходняя элегія».
**19.50** Свет кіно. Маст. фільм «Тайныя прыгоды хлопчыка з пальчык» (Вялікабрытанія).
**20.45** «Оба-на»: выбранае.
**21.00** Сёння. Інфармацыйная праграма.
**21.35** Час серыяла «Любоўныя вузы-6». Кармен Лодэрос у фільме Альберта Латуады «Страчаная перавага» (Італія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20**—0.55 Музычная праграма «Пілот-2».

## Аўторак, 19 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** Аўта-парк.
**8.30** Абібок.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Гісторыя. 8-ы клас. Культура Беларусі на пачатку XX стагоддзя.
**9.30** «Вестгейт». Тэлесерыял (ЗША). Заключная серыя.
**10.25** «Будзьце здаровы».
**10.35** «Канцэрт-вальс».

**Тыдзень тэлебачання Малдовы**

**11.10** «Узыходжанне». Тэленарыс.
**11.30** «Кветка смутку». Канцэрт.
**12.05** «Серафім Паўбес і іншыя жыхары Зямлі». Маст. фільм.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Забытыя мясціны». Тэл. дак. фільм.
**15.35** Тэлеанонс.
**15.40** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас. Віталь Вольскі. «Несцерка».
**16.15** «Усе пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей.
**16.40** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Глеб Саінчук». Дак. фільм.
**17.00** Радавод. Вяснавыя абрады.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Малдаўскае шкло». Відэафільм.
**18.10** Тэлеанонс.
**18.15** «Будзьце здаровы».
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Дося» прадстаўляе: «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял (Аўстралія). 1-я серыя.
**20.00** Латарэя «Тваё жыллё». Інтэрв'ю прэзідэнта БФК «Цэнтрабуд» Г. Д. Максімава.
**20.05** Вертыкаль.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Пікіруючы зяблік». Маст. фільм.
**23.20** Супергол.
**23.50** «Залатое вышыванне». Тэлевізійны дак. фільм.
**24.00** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**10.00** Смехапанарама. Вядучы Я. Петрасян.
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Свет». «Мы і рынак».
**11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 1-ы. 5-я серыя.
**13.00** «Вясеннія мелодыі». Мультфільм.
**13.10** «Т. С. Н.» («Тэлевізійная служба навін»). Серыял.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Драконы падзямелляў». Мультсерыял. Заключная серыя.
**14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
**14.50** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, або Сінема.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** «Сем дзён спорту».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.00** «Тэма».
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.30** «Аперацыя».
**20.45** Праграма перадач.
**20.50** Марына Ладыніна і Уладзімір Зельдзін у фільме «Свінарка і пастух».
**22.25** «Масква—Крэмль».
**22.40** Навіны.
**22.50** Хіт-парад.
**23.30** Гісторыя скарбаў Патрыяршай рызніцы ў дэтэктыве «Чорны трохкутнік». 1-я серыя.
**0.40** «Сем дзён спорту» да 2.10.

### Канал «Расія»

**9.50** Ключавы момант.
**10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**10.20** Міліцэйская хроніка.
**10.30** «Ваяўніца». Маст. фільм.
**11.15—11.30** Рэпартажы з месцаў.
**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** «Кэтрын і яе музыка». Дак. фільм цыкла «Перамена ў маім жыцці» (Англія).
**15.45** Каляндар.
**15.55** Кліп-антракт.
**16.20** Новая лінія.
**16.50** Ніхто не забыты.
**16.55** Кінаафіша.
**17.10** Ваша права.
**17.25** Вуснамі дзіцяці.
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Мой ласкавы і пяшчотны звер». Маст. фільм.
**21.40** Рэк-тайм.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Дзённік фестывалю «Залатая маска».
**22.55—0.45** Футбол. Кубак УЕФА. 1/4 фіналу. «Нотынгем Форэст» (Нотынгем) — «Баварыя» (Мюнхен).

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Хуткая дапамога.
**13.40** Парады садаводам.
**13.50** Тэлебліц.
**13.55, 20.00, 21.35** Музычны момант.
**14.05** «Казка на ноч». Маст. фільм (Расія).
**15.40** «Нямецкая хваля».
**16.00** Стыль жыцця.
**16.15** Авертайм.
**16.30** Дзіцячае ТБ. «Дзецям пра зверанят».
**17.00** Па ўсёй Расіі.
**17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.05** «Маленькі пракурор». Маст. фільм (Германія).
**22.00** Спорт, спорт, спорт...
**22.20** Дзень нараджэння.
**22.30—23.09** «Мая музыка». Сева Наўгародцаў.

### Расійскія універсітэты

**7.30** Мір вашаму дому.
**7.40** СІВ. Навіны.
**7.50** Французская мова для дзяцей.
**8.10** Праграма мультыплікацыйных фільмаў: «Хто сказаў мяў?», «Кватэра з сыра», «Дыялог».
**8.35** Цёмкіны адкрыцці.
**8.55** Гісторыя — настаўнік жыцця. «Ром. Сцэны з жыцця В. І. Санарава». Дак. фільм.
**9.25** Тэлекурс «Французская мова ў дзеянні».
**9.55** Французская мова для вас. Нацыянальная асамблея.
**10.30** СІВ. Навіны. Асацыяцыя «Наша кіно» прадстаўляе...
**10.35** «К. Р.» Дак. фільм.
**11.05** «На золотом крыльце сидели...»
**11.20** Абарона і бяспека.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** Казкі для бацькоў. «Пачатак». Частка 2-я.
**14.05** Незабыўны тэатр. А. М. Астроўскі. «На всякого мудреца довольно простоты». Спектакль тэатра імя Яўгенія Вахтангава. Частка 2-я.
**15.35** «...Каб перамагчы хваробу...»
**15.55** «Спяваю для Вас». Сёстры Зайцавы.
**16.00** Асоба. Гісторыя. Культура. «З гісторыі купецтва». К. Т. Салдаценкаў.
**16.30** Вышэйшая школа.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 102-я серыя (ЗША).
**17.30** У пошуках прыгод.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Ніно Манфрэдзі ў фільме «Кава «ЭКСПРЕССО» (Італія).
**20.40** «ТЭФІ-96»: хто ёсць хто.
**20.50** «Оба-на»: выбранае.
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Суіні- падраздзяленне хуткага рэагавання». 1-я серыя (Вялікабрытанія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20—1.17** Меламанія: «Карл Перкінс і яго сябры».

## Серада, 20 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Казкі Гофмана». Фільм-балет.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас. Віталь Вольскі. «Несцерка».
**9.35** «Вяртанне ў Эдэм». 1-я серыя.

**Тыдзень тэлебачання Малдовы**

**10.30** «Кукурыгу». Муз. фільм для дзяцей.
**11.00** «Фэт Фрумас і Сонца». Мультфільм.
**11.10** Тэлеанонс.
**11.15** «Зорная ростань». Тэлевізійны конкурс маладых артыстаў эстрады.
**11.55** Відзьма-нявідзьма.
**12.55** «Габсек». Маст. фільм.
**14.30** «Следства вядуць Калабкі». Мультфільм.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Юрка — сын камандзіра». Маст. фільм («Беларусьфільм»).
**16.25** «Спорт, каханне і фантазія». Кінаканцэрт.
**17.05** Крэда.
**17.20** Госці ў хату.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Тэлеанонс.
**18.05** «Чым багаты...» Беларускае оптыка-механічнае вытворчае аб'яднанне.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял.
**19.55** «Хто гэта?» Тэлегульня.
**20.00** Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. Дубровенская вячэра.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Лучафэрул». Маст. фільм. 1-я серыя.
**23.35** Каралеўскае паляванне. У перапынку (24.00) — Навіны.
**0.30** «12, ці На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** «Тэма».
**9.50** «У свеце жывёлы» (з сурдаперакладам).
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Свет».»Кантакт — дзелавое супрацоўніцтва краін Садружнасці».
**11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 2-і. 1-я серыя.
**13.00** «Сінічкін каляндар. Вясна». Мультфільм.
**13.10** «Т. С. Н.» («Тэлевізійная служба навін»).
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Прыгоды ў Адысеі». Мультсерыял.
**14.40** Кактус і К.
**14.50** До-мі-соль.
**15.10** Кліч джунгляў.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** «Тэт-а-тэт».
**16.30** «Сем дзён спорту».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. 1/4 фінала. «Спартак» (Масква) — «Нант» (Францыя). Трансляцыя. У перапынку — «Спакойнай ночы, малышы!» 11 мін., рэклама УЕФА 1.20, рэклама ГРТ 2 мін. Магчымы дадатковы час да 22.10.
**20.20** Час.
**21.00** Праграма перадач.
**21.05** Камедыя Юрыя Маміна «Фантан».
**22.50** Навіны.
**23.00** Кінематограф.
**23.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. 1/4 фінала. Агляд 3-х матчаў да 1.45.

### Канал «Расія»

**9.05** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**10.00**, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
**10.20** Надзвычайны канал. «Жывём і любім».
**10.30** Музычны экспромт.
**10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял (Канада).
**11.15**—11.30 Рэпартажы з месцаў.
**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** Чый бок?
**16.20** Далёкі Усход.
**16.50** Кліп-антракт. М. Шуфуцінскі.
**16.55** Ад «вінта».
**17.10** Кіпрас Мажэйка. «Паралелі».
**17.25** Свая гульня.
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**20.30** Даміно Міхаіла Баярскага.
**21.10** Надзвычайны канал.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Дзённік фестывалю «Залатая маска».
**22.55** «Хто мы?» Гісторыка-публіцыстычная праграма.
**23.50**—24.00 Экран крымінальных паведамленняў.

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.35, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.05** Хуткая дапамога.
**13.35** Парады садаводам.
**13.45** «Тры мушкецёры». Мультфільм.
**13.55, 15.55, 16.35** Музычны момант.
**14.10** «Вандраванне ў шчаслівую Арафію». Маст. фільм.
**15.40** «Нямецкая хваля».
**16.00** Тэле-бліц.
**16.05** Стыль жыцця.
**16.40** Дзіцячае ТБ. «Лепш хорам».
**17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.00** Хіт-парад «Тэлекампакта».
**20.55** Справы гарадскія.
**21.10** Блеф-клуб.
**22.00** Спорт, спорт, спорт...
**22.20** Дзень нараджэння.
**22.30**—13.41 «Пакорлівая». Маст. фільм.

### Расійскія універсітэты

**Прафілактычныя работы па Маскве і Маскоўскай вобласці з 10.30 да 15.00.**

**9.30** Морыс Друон у Маскве.
**10.15** Музычны антракт.
**10.30** СІВ. Навіны.
Асацыяцыя «Наша кіно» прадстаўляе
**10.35** Шоу эстрадных зорак.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** Тэатр аднаго мастака. С. Чэхаў.
**14.00** Нямецкая мова. 1-ы і 2-і гады навучанны.
**14.55** «Сустрэча». Кароткаметражны маст. фільм.
**15.30** Педагогіка для ўсіх.
**16.15** Музычныя музеі свету. Ф. Шуберт.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 103-я серыя (ЗША).
**17.30** Такое спартыўнае жыццё.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Райан О' Ніл і Ізабель Аджані ў фільме Уолтэра Хіла «Вадзіцель» (ЗША).
**20.35** Дзецям. Мультфільмы на ноч. «Як казакі кулеш варылі».
**20.45** «Оба-на»: выбранае.
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Суіні—падраздзяленне хуткага рэагавання». 2-я серыя (Вялікабрытанія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20—1.20** Кафэ. Абломаў.

## Чацвер, 21 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.

**Тыдзень тэлебачання Малдовы**

**8.15** «Зорка ўзышла». Відэафільм.
**8.50** «Бужарэл», «Крывы», «Тындалэ і Пэкалэ». Мультфільмы.
**9.20** «Эпітафія цыгарэце». Дак. фільм.
**9.40** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял.
**10.35** «Будзьце здаровы».
**10.45** «Афрыканскае паляванне». Дак. фільм.
**11.30** «Пра Ксюшу і Камп'юшу», «Замочак з сакрэтам». Мультфільмы.
**12.10** Па вашых просьбах. «Залатое цяля». Шырокаэкранны маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Пяць выкрадзеных «манахаў». Маст. фільм для дзяцей.
**16.35** «Мне сніўся сад». Дак. фільм.
**16.45** Тэлеанонс.
**16.50** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.20** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Правінцыя.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Як жывеш, выдавецтва?» Тэленарыс.
**18.10** Тэлеанонс.
**18.15** «Будзьце здаровы».
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял.
**20.05** «Кантрасты». Прававая праграма.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Лучафэрул». Маст. фільм. 2-я серыя.
**23.50** «Нітка Арыядны». Тэл. дак. фільм.
**24.00** Навіны.
**0.15** «Крок». Праграма для моладзі.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў. «Ювентус» (Італія) — «Рэал» (Мадрыд, Іспанія).
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам міру».
**11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 2-і. 2-я серыя. (Па магчымасці рэклама паміж перадачамі 2 хвіліны.)
**13.10** «Т. С. Н.» («Тэлевізійная служба навін»).
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Прыгоды ў Адысеі».
**14.40** Лего-го!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Парнае катанне. Адвольная праграма. Перадача з Канады.
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Лато-мільён.
**19.05** «Адзін на адзін».
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** Роджэр Мур у баевіку «Захоп у Паўночным моры».
**22.30** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Парнае катанне. Адвольная праграма. Перадача з Канады.
**23.20** Навіны.
**23.30** «Чорны трохкутнік». 2-я серыя да **1.35**.

### Канал «Расія»

**9.00** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**10.20** Міліцэйская хроніка.
**10.30** Музычны экспромт.
**10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял (Канада).
**11.15—11.30** Рэпартажы з месцаў.
**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** Кенгуру.
**16.20** Новая лінія.
**16.50** Танц-экспрэс.
**17.05** Залатая візітка.
**17.25** Арт-абстрэл. Алёна Свірыдава.
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**20.30** «Нос». Гумарыстычная праграма.
**21.05** На палітычным Алімпе.
**22.30** Футбол. Кубак кубкаў. 1/4 фіналу. «Рапід» (Вена) — «Дынама» (Масква). У перапынку — экран крымінальных паведамленняў.
**0.30** Рака часу.
**0.35--0.40** Аўтаімгненне.

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Хуткая дапамога.
**13.40** Парады садаводам.
**13.50** Рэцэпт.
**14.10** «Пакорлівая». Маст. фільм.
**15.20, 16.25, 20.00** Музычны момант.
**15.40** «Нямецкая хваля».
**16.00** Стыль жыцця.
**16.15** «Аляксандраўскі парк». Тэлефільм.
**16.30** «Пахуліганім». Перадача для дзяцей.
**17.00** Па ўсёй Расіі.
**17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.05** С. Мрожак. «Чарадзейная ноч». Тэлеспектакль.
**20.55** «Залаты Цялец». Забаўляльная праграма.
**22.00** Спорт, спорт, спорт...
**22.20** Дзень нараджэння.
**22.30** «Асабовая справа».
**23.00—24.00** «Я прыйшоў на спатканне з вамі». Жорж Брасанс. Дак. фільм (Францыя).

### Расійскія універсітэты

**7.30** Мір вашаму дому.
**7.40** СІВ. Навіны.
**7.50** Нямецкая мова для дзяцей.
**8.10** «Кастрама». Мультыплікацыйны фільм.
**8.20** Фільмы рэжысёра Юрыя Клімава. «Партрэт казаха з беркутам».
**8.50** Суцяшэнне операй. Р. Штраус. «Саламея».
**9.30** Падарожжа ў краіну іспанскай мовы. 1-ы і 2-і гады навучання.
**10.30** СІВ. Навіны. Асацыяцыя «Наша кіно» прадстаўляе.
**10.35** АРІОС.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** «Два багатыры». Мультыплікацыйны фільм.
**13.45** Крыніцы.
**14.15** «Бумбараш». Маст. фільм. 1-я серыя.
**15.20** «Маскоўскія Пенаты». Мікалай Кетчэр.
**15.45** Новая пачатковая школа.
**16.15** Цішыня № 9.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 104-я серыя (ЗША).
**17.30** Паўгадзіны пра тэніс.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Рэгулярныя матчы НХЛ. «Таронта»—»Дэтройт».
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Суіні — падраздзяленне хуткага рэагавання». 3-я серыя (Вялікабрытанія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20**—1.40 Кіно не для ўсіх. Вудзі Ален. Маст. фільм «Брадвей Дэнні Роуз» (ЗША).

## Пятніца, 22 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Руская фантазія». Фільм-канцэрт.
**9.00** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял.
**9.55** «Крэм-бруле», «Фунцік і сышчыкі». Мультфільмы.
**10.15** «Залатыя рогі». Маст. фільм.
**11.25** «Маналог пра каханне». Фільм-канцэрт.
**12.35** Класіка на экране. «Сэрца не камень». Тэлевізійны маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Востраў Серафімы». Тэл. маст. фільм.
**16.30** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Тут наш дом».
**17.00** Педагагічны экран. Выхаванне дзяцей у няпоўных сем'ях.
**17.30** «Пад знакам «Ч». Частка 1-я «Зона адчужэння». Перадача з Гомеля.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Творцы. Балетмайстар Сямён Дрэчын.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял.
**20.05** «Міжнародны кур'ер». Падзеі, факты, каментарыі.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** Вячэрні ілюзіён. «Дарагі Гарбачоў». Маст. фільм (Італія).
**23.35** Майстэрня. «Беларуская акадэмія мастацтваў».
**23.55** Тэлеанонс.
**24.00** Навіны.
**0.15** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** «Адзін на адзін».
**9.45** «Іграй, гармонік любімы!»
**10.15** «Навошта вярблюду апельсін?» Мультфільм.
**10.25** «Пакуль усе дома».
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Ад пятніцы да пятніцы. Займальныя сюжэты з краін Садружнасці».
**11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 2-і. 3-я серыя.
**13.00** «Фарбаваны ліс». Мультфільм.
**13.10** «Т. С. Н.» («Тэлевізійная служба навін»). Серыял.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Прыгоды ў Адысеі».
**14.40** Фільмы-казкі Аляксандра Роу. «Мар'я-іскусніца».
**15.55** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Адвольная праграма. Перадача з Канады.
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** «Зорка» прадстаўляе...
**18.25** Чалавек і закон.
**18.55** «Поле цудаў».
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло». Серыял.
**21.45** Погляд.
**22.30** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Адвольная праграма. Перадача з Канады.
**23.30** Навіны.
**23.40** «Чорны трохкутнік». 3-я серыя да 1.50

### Канал «Расія»

**9.05** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**10.20** Міліцэйская хроніка.
**10.30** Гандлёвы дом. «Ле Монці».
**10.45** Мульці-пульці. «Кватэра з сыру», «Мы з Шэрлакам Холмсам», «Караблік».
**11.15—11.30** Рэпартажы з месцаў.
**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** Прадоўжанка.
**15.50** Каляндар.
**16.20** Новая лінія.
**16.50** Дысней па пятніцах. «Высокае неба». Маст. фільм. 3-я серыя.
**17.45** Белая варона.
**18.15** Кліп-антракт. Лада Дэнс, група «Брава».
**18.25** Урадавыя будні.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара». Маст. фільм.
**20.30** «К-2» прадстаўляе: «Пацалунак у дыяфрагму».
**21.25**. Заставайцеся ў капелюшы.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Аналізы тыдня.
**23.10**—0.43 «Рукі забойцы». Маст. фільм (Вялікабрытанія).

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Хуткая дапамога.
**13.40** Парады садаводам.
**13.50** «Дудачка і збаночак». Мультфільм.
**14.10** С. Мрожак. «Чарадзейная ноч». Тэлеспектакль.
**14.55, 20.00, 21.35** Музычны момант.
**15.00** «Еўрапейскі калейдаскоп».
**15.40** «Нямецкая хваля».
**16.00** Стыль жыцця.
**16.15** «Страсці-мардасці».
**16.30** Дзіцячае ТБ. «Там, дзе жыве Павуціныч».
**16.50** «Сем пятніц на тыдні».
**17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.05** «Адкрыццё». Маст. фільм.
**22.00** Спорт, спорт, спорт...
**22.20** Дзень нараджэння.
**22.30** Парад парадаў.
**23.10** «Мона Ліза». Маст. фільм (Вялікабрытанія).

### Расійскія універсітэты

**7.30** Мір вашаму дому.
**7.40** СІВ. Навіны.
**7.50** Англійская мова для дзяцей.
**8.10** Як уладкаваны свет. «Абарона Мечнікава». Навукова-папулярны фільм.
**8.40** «Бурда модэн» прапануе...
**9.10** Прэм'ера дак. фільма «Бернхард Люгінбюль. Спальванне № 9».
**9.30** Англійская мова. «У нас у Брытаніі».
**10.00** Пачынаем дзелавую англійскую.
**10.30** СІВ. Навіны. Асацыяцыя «Наша кіно» прадстаўляе...
**10.35** Планета «Здароўе».
**11.10** Дзелавы блакнот.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** Сакральныя цывілізацыі.
**14.05** «Бумбараш». Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.10** Руская мова.
**15.45** Ваш адвакат.
**16.00** Р. Шчадрын. «Расійскія фатаграфіі».
**16.30** Кактэйль для цікаўных.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 105-я серыя (ЗША).
**17.30** Футбольны клуб.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Рускі дэтэктыў. Васіль Мішчанка, Аксана Фандэра і Міхаіл Казакоў у фільме «Дурні паміраюць па пятніцах».
**20.40** «Оба-на»: выбранае.
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Суіні — падраздзяленне хуткага рэагавання». 4-я серыя, заключная (Вялікабрытанія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20** Свет кіно. Цыкл Эдгара По. Роджэр Кармэн. Маст. фільм «Грабніца Лігейі» (ЗША).
**0.45**--3.05 Начны канал. Эратычныя шоу свету.



## Субота, 23 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Навіны.
**8.15** Існасць. Духоўная праграма.
**8.45** «Сугучнасць». Перадача з Брэста.
**9.05** Здароўе. Тэлечасопіс.
**9.40** Урокі Наталлі Наважылавай.
**10.10** «Непаседа», «Ты мяне не бойся», «Як дзед па дождж хадзіў», «Мая мама чараўніца». Мультфільмы кінастудыі «Беларусьфільм».
**10.50** «Усе пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма.
**11.15** «Ералаш». Гумарыстычны часопіс.
**11.35** Тэлеанонс.
**11.40** «Свет прыроды і захапленняў».
**12.20** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Аляксандру Лапушняну». Фільм-опера.
**13.55** Шматгалоссе.
**14.30** Алімпійскі сілуэт. Плаванне.
**14.50** «Чысты голас». Канцэрт.
**15.20** Беларускі дом.
**16.00** «Заставайцеся з намі!» Сустрэча супрацоўнікаў Белтэлерадыёкампаніі з жыхарамі Магілёўскай і Гомельскай абласцей.
**16.30** Зорная ростань. Тэлевізійны конкурс маладых артыстаў эстрады.
**17.10** Тэлевізійны Дом кіно. Фестываль «Белы Бусел».
**17.50** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Асенні кактэйль». Музычная праграма.
**18.30** Галерэя. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Анатоль Лябедзька. Аўтарская праграма Тацщяны Ягоравай.
**19.05** Па вашых просьбах. «Падранкі». Маст. фільм.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Навіны.
**21.45** «Ноч святога Лаўрэнція». Маст. фільм (Італія).
**23.45** Відзьма-нявідзьма.
**0.45** Цёмны пакой.

### ГРТ

**6.45** Тэлеканал «Пад'ём!»
**7.45** Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
**8.00** Навіны.
**8.10** Тэлеканал «Пад'ём!» (Працяг).
**9.30** «Не глядзі па баках!»
**10.00** Ранішняя пошта.
**10.35** Смак.
**10.50** «Эрмітаж». «Фаварыт Пятра Вялікага».
**11.25** Люсьена Аўчыннікава ў фільме «Мама выйшла замуж».
**12.55** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Адвольны танец. Перадача з Канады.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Аўтамабіль і я».
**14.40** У свеце жывёл.
**15.20** «Акно ў Еўропу». Вядучы Д. Кісялёў.
**15.50** Бамонд.
**16.10** «Шчаслівы выпадак».
**17.00** Навіны.
**17.20** Вясёлыя гісторыі ў часопісе «Ералаш».
**17.40** Тэлескоп.
**18.10** «Залатая серыя». Год 1985-ы. «Самая абаяльная і прывабліваяя».
**19.45** Спакойнай ночы, малышы!»
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло».
**21.45** «Дні».
**22.25** «Брэйн рынг».
**23.15** «Калекцыя Першага канала». Джан Марыя Валантэ ў крымінальнай драме «Шчаслівчык Лучана» да 2.10.



### Канал «Расія»

**7.00, 13.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**7.25** «Што дзень наступны...»
**7.30** «Ваўкалакія, ці Загадка доктара Нікадзіма».
**7.45** Залаты ключык.
**8.05** Этыкетка.
**8.15** Твае магчымасці, чалавек.
**8.45** Парламенцкі тыдзень.
**9.30** Вялікі хакей.
**10.10** Кліп-антракт. Р. Ібрагімаў.
**10.15** Як жыць будзем?
**11.00, 22.30** Служба 299-00-00.
**11.15** Пілігрым.
**12.00** Свята «Труда».
**12.30** «Паэт у Расіі — больш, чым паэт». Праграма Я. Еўтушэнкі.
**13.20** Дэ факта.
**13.35** «Бланш». Шматсерыйны тэлефільм (Канада). 1-я серыя.
**14.25** Караоке па-руску.
**14.45** Сігнальны экземпляр.
**15.00** Імперыя гульняў. «Гладыятары».
**15.50** Кліп-антракт. П. Кіркораў.
**15.55** Футбол. Чэмпіянат Расіі. «Спартак» (Масква) — «Чарнаморац» (Новарасійск).
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Суботні вечар з Раланам Быкавым.
**21.05** Зусім сакрэтна.
**22.45** Рака часу.
**22.50** Аўтаімгненне.
**22.55** Праграма «А».
**23.55**—0.40 Адамаў яблык.

### Санкт-Пецярбург

**9.00** Актуальна—надзённа.
**9.30** Стыль жыцця.
**9.45** Дзень нараджэння.
**9.50** «І ўсё былое...»
**10.30** Ток-шоу «Наўздагад». Георгій Жжонаў.
**11.00** Тэніс. Міжнародны турнір «Кубак Санкт-Пецярбурга-96».
**12.35** «Алімпійская гонка». Дак. фільм (Нарвегія).
**13.05** «За вочы». Музычна-забаўляльная праграма.
**13.30** «Яшчэ адна Расія». Відэаканал.
**15.00** «Ці любіце вы вучэбны тэатр?»
**15.30, 18.30, 21.00** Інфарм ТБ.
**15.40** Мы і банк.
**16.20** Зебра.
**17.10** Тэлеканал «Не хочаш — не глядзі».
**17.55** Тэле-граф.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.55** Спартыўная праграма.
**20.25** «Жах прыходзіць у поўню». Тэлеспектакль цыкла «Уік-энд з дэтэктывам».
**21.20** «Гаварыце... мне цікава». Маст. фільм (Францыя).
**22.40** Музычны рай.

### Расійскія універсітэты

**7.00** Міхаіл Маргуліс. Вяртанне да Бога.
**7.30** «Рыкі-Цікі-Таві». «Выпадак з бегемотам». Мультыплікацыйныя фільмы.
Сямейны канал. Вядучы пісьменнік Юрый Палякоў.
**8.00** Анонс Сямейнага канала.
**8.15** АБВГДэйка.
**8.35** Пакупка.
**8.55** Гасціная Сямейнага канала. «Зямля і неба».
**9.20** Домаўладальнік.
**9.35** Гэта ўсё пра кветкі.
**9.50** Шчырасць.
**10.00** На дарогах Расіі. Па зводках ДАІ РФ.
**10.05** Пенсіён.
**10.10** Медыцына для вас.
**10.30** СІВ. Навіны.
**10.35** Гасціная Сямейнага канала.
**11.05** Вольга Кучкіна. «Час «Ч».
**11.35** Непазнаны Сусвет.
**12.05** У гасцінай Сямейнага канала.
**12.25** Эканамічны агляд «У сямейны блакнот».
**12.50** Гумарыста выклікалі?
**13.05** У гасцінай Сямейнага канала.
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** Тэлегульня «З паўслова».
**13.50** Масква пасажырская.
**14.00** Тэлегульня «З паўслова». Паўфінал.
**14.15** Вольная барацьба. Чэмпіянат Еўропы. Перадача з Будапешта.
**14.40** Інфармацыйны век.
**15.10** «В. Давыдаў і Галіаф». Кароткаметражны маст. фільм.
**15.35** СІВ. Інфармацыйны агляд «Дом моды».
**15.55** Музычная кунсткамера.
**16.25** СІВ. Інфармацыйны агляд «Навіны кіно».
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** РЕН-ТВ прадстаўляе: «Догшоу. Я і мая сабака».
**17.30** Вернісаж Іллі Рэзніка.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.30** Праграма Сяргея Дарэнкі «Характары».
**19.10** Серыял па выхадных «Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску». 21-я серыя (ЗША).
**20.00** Надоечы.
**20.45** Лялькі.
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Свет кіно. «Джэймс Бонд — агент 007». Фільм пяты «Ты жывеш толькі двойчы» (ЗША).
**23.35** Трэці глаз.
**0.20--2.55** Начны канал. «Плэйбой».

## Нядзеля, 24 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Тыдзень тэлебачання Малдовы. «Паэт, мора і натхненне». Фільм-канцэрт.
**8.40** Тэлеанонс.
**8.45** «Конан». Мультсерыял (ЗША).
**9.10** Лепшыя хіты MTV.
**9.40** Па вашых просьбах. Алена Проклава і Андрэй Міронаў у маст. фільме «Будзьце маім мужам».
**11.05** Усё нармальна, мама! Забаўляльная праграма.
**11.35** Арсенал. Праграма для вайскоўцаў.
**12.05** «Вяршыня свету». Тэлегульня.
**12.25** Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
**12.45** «Тэлебом». Шоу-конкурс.
**13.40** Студыя «Акно». Класіка двароў.
**14.15** Аўта-парк.
**14.30** Мост.
**15.00** Таямніцы свету. «Дзікі поўдзень». Навукова-папулярны серыял (Новая Зеландыя).
**15.30** Запрашаем на вячоркі. Гуканне вясны.
**16.00** Тэатр у фатэлі.
**16.40** «Вяршыня свету». Тэлегульня (працяг).
**17.00** Абібок.
**17.30** Камп'ютэрны палігон.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. «Манчэстэр Юнайтэд» — «Тотэнхем». У перапынку (18.45) — Калыханка.
**19.50** Тэлеанонс.
**20.00** Рэзананс.
**20.50** Навіны-ТБ.
**21.05** Ток-шоу «Карамболь».
**21.40** «Сінема». «Бум-II». Маст. фільм (Францыя).
**23.40** «Бархатны сезон». Музычна-забаўляльная праграма.

### ГРТ

**6.50** Тыраж «Спортлато».
**7.00** Тэлеканал «Пад'ём!»
**8.00** Навіны.
**8.10** Тэлеканал «Пад'ём!» (працяг).
**9.25** Пакуль усе дома.
**10.00** Ранішняя зорка.
**10.50** «З першых рук».
**11.00** «Служу Расіі!»
**11.30** «Іграй, гармонік любімы!»
**12.00** Рускі свет.
**12.25** «Відавочнае — неверагоднае».
**12.55** Смехапанарама. Вядучы Я. Петрасян.
**13.25** Прыгодніцкі серыял «Піраты».
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** Вакзал мары. Юрый Башмет.
**15.00** Клуб падарожнікаў.
**15.45** Футбольны агляд.
**16.15** Мультфеерверк: «Легенды вострава скарбаў», «Прыгоды Вудзі і яго сяброў».
**17.00** Навіны.
**17.20** «КВН-асарці».
**17.55** Фігурнае катанне. Чэмпіянат свету. Жанчыны. Адвольная праграма. Перадача з Канады.
**18.55** «Гагарын». Мультфільм.
**19.00** Філіп Нуарэ ў камедыі «Адчыніце, паліцыя!»
**20.55** Рэклама.
**21.00** Нядзеля.
**21.48** Навіны спорту (без публікацыі).
**21.55** Праграма перадач.
**22.00** «Дэтэктыўнае агенцтва «Месяцавае святло».
**22.55** Навіны.
**23.05** Каханне з першага погляду.
**23.40** «Дождж у чужым горадзе». Тэлефільм да **2.50**.

### Канал «Расія»

**7.00, 13.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**7.25** «Што дзень наступны...»
**7.30** Церамок.
**7.45** Гасцініца дзеда Мазая.
**8.00** Наш сад.
**8.30** У свеце аўта- і мотаспорту.
**9.00** Добрай раніцы. «Снеданне для чэмпіёнаў».
**9.30** Аты-баты...
**10.00** Весткі ў адзінаццаць.
**10.15** Рускае лата.
**10.55** Гандлёвы дом. «Ле Монці».
**11.00** Лепшыя гульні НБА.
**12.00** «Гэты невядомы... Сяргей Шакураў».
**12.45** Гарачая дзесятка.
**13.20** Не высечы...
**13.35** «Бланш». Шматсерыйны тэлефільм (Канада). 2-я серыя.
**14.25** Футбол без граніц.
**15.10** Кліп-антракт. І. Алеграва.
**15.15** Кніжная лаўка.
**15.45** У свеце жывёл.
**17.00** Чароўны свет Дыснея. «Кранўты», «Аладзін». Мультсерыялы.
**17.55** Здымаецца кіно...
**18.00** Кола гісторыі.
**19.25** Зроблена ў Галівудзе. «Какэйль». Маст. фільм.
**21.25** У Ксюшы.
**22.30** Служба 299-00-00.
**22.45** Рака часу.
**22.50** Аўтаімгненне.
**22.55** Дзённік фестывалю «Залатая маска».
**23.10**—24.00 Ціхі дом. «На шляху да «Оскара-96». Праграма С. Шолахава.

### Санкт-Пецярбург

**8.20** Гэта ваш дзень.
**8.50** Гаючае слова.
**9.20** Стыль жыцця.
**9.35** «Сонца ў кішэні». Маст. фільм для дзяцей.
**10.45** Дзень нараджэння.
**10.50** Храм.
**11.20** «Барабашка-ТБ». Клаунада.
**11.35** Расія. Выбар шляху.
**12.05** «Вакол тэатра». Запрашае Любоў Казарноўская.
**12.25** Тэніс. Міжнародны турнір «Кубак Санкт-Пецярбурга-96».
**14.00** Салісты Марыінскага тэатра ў праграме «Адажыо».
**14.40** Дзіцячае ТБ. «Залаты ключ».
**15.00** Казка за казкай. «Каменнае сэрца». Частка 2-я.
**15.35** «Паглядзім». Тэлеанонс праграм.
**15.50**, 17.55, 18.55 Музычны момант.
**15.55** Чэмпіянат Італіі па футболу.
**18.00** Спявай з намі.
**18.20** Тэлебліц.
**18.30** Інфарм ТБ.
**19.00** Ура! Камедыя. «Як дасягнуць поспеху ў рэкламе». Маст. фільм (Вялікабрытанія).
**20.30** Тэлешансон.
**21.00** Інфарм ТБ. Міжнародны агляд.
**21.25** Ноу смокінг.
**22.10** Міжнародны турнір па тэнісу «Кубак Санкт-Пецярбурга-96».
**22.30** «Тры сябры». Маст. фільм-пародыя (ЗША).

### Расійскія універсітэты

**7.00** Датыкненне. Сямейны канал. Вядучы паэт Андрэй Дзяменцьеў.
**8.00** Анонс Сямейнага канала.
**8.05** АБВГД плюс «Для дзяцей і бацькоў».
**9.00** У гасцінай Сямейнага канала.
**9.20** Ноу-хау: інфармацыя, людзі, ідэі.
**9.50** Бантон.
**10.10** Карысныя парады.
**10.30** СІВ. Навіны.
**10.35** У гасцінай Сямейнага канала.
**11.05** Казкі пра каханне. Аляксей Зардзінаў.
**11.45** «Дамавы» Сямейнага канала Ралан Быкаў.
**12.05** Пенсіён.
**12.10** Спадар.
**12.55** Сем Я.
**13.10** Графаман.
**13.20** Часопіс часопісаў.
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** Тэлегульня «З паўслова». Фінал.
**13.50** У гасцінай Сямейнага канала.
**14.15** Вас запрашае фірма «Савва».
**14.25** Крок з круга.
**14.55** Футбол. Чэмпіянат Расіі. «Дынама» (М) — «Спартак-Аланія» (Уладзікаўказ). 2-і тайм. Трансляцыя са стадыёна «Дынама».
**15.50** ТВ-клуб паляўнічых.
**16.20** У гасцінай Сямейнага канала.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Паліцэйскі Кэтс і яго сабака». 27-я серыя (ЗША).
**17.30** Тэлегульня «Сто да аднаго».
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.30** Музычная праграма «Авацыя».
**19.00** Серыял па выхадных «Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску». 22-я серыя (ЗША).
**19.50** «Оба-на»: Выбранае.
**20.00** Вынікі.
**21.10** Наша старое кіно. Арчыл Гаміашвілі, Сяргей Філіпаў, Міхаіл Пугаўкін і Наталля Крачкоўская ў фільме «Дванаццаць крэслаў».
**23.55—1.30** Залаты Астап: другое жыццё (А. Гаміашвілі 70 гадоў).

**Згубленае пасведчанне аб праве на льготы** № 182528 серыі А, выдадзенае на імя Ляшкевіча Канстанціна Канстанцінавіча, **лічыць несапраўдным.**

*Шыманскага Уладзіміра Іванавіча з Мінска віншуем з днём нараджэння. Зычым усіх даброт жыцця.*

*Сябры і родныя.*

# ДВАЙНОЕ ЗАБОЙСТВА

**Адзінаццатага студзеня 1996 года, каля 16 гадзін, на дарозе Барысаў—Плешчаніцы—Ашмяны, за 3 кіламетры ад в. Старынкі Вілейскага раёна, пад мостам былі знойдзены трупы двух мужчын з прыметамі гвалтоўнай смерці. Як сведчыць судова-медыцынская экспертыза, смерць наступіла ад агнястрэльных раненняў у галаву. Кулі, па заключэнню эксперта-баліста, выпушчаны з пісталета «ТТ».**

Для раскрыцця і расследавання гэтага злачынства намеснікам пракурора Мінскай вобласці Мікалаем Пілінкевічам была створана следча-аператыўная група, у якую ўвайшлі найбольш вопытныя работнікі следчага аддзела пракуратуры вобласці і абласнога ўпраўлення крымінальнага вышуку: начальнік следчага аддзела па важнейшых справах пракуратуры вобласці А. Калеснікoвіч, намеснік начальніка следчага аддзела В. Худушын, следчы па важнейшых справах М. Мароз, а таксама супрацоўнікі пракуратуры і міліцыі.

Перш за ўсё неабходна было як мага хутчэй устанавіць асобы загінуўшых. З гэтай мэтай па рэспубліканскім тэлебачанні былі апісаны прыметы мужчын, іх адзенне, своечасова паведамлены і зарыентаваны супрацоўнікі бліжэйшых РАУС. Гэта дазволіла ўжо праз два дні ўстанавіць, што загінуўшыя з'яўляліся жыхарамі Мінска: дырэктар фірмы «Рэмікс» А. Зелянко і яго намеснік А. Андрушкевіч.

З паказанняў сваякоў вынікала, што Зелянко і Андрушкевіч займаліся перапродажам мукі, супрацоўнічалі з рознымі фірмамі. Адным з пастаўшчыкоў мукі аказаўся прадпрымальнік з Мінска, нехта Аляксандр Мікалаевіч, на сустрэчу з якім збіраліся пацярпеўшыя. Сустрэча павінна была адбыцца ў офісе «Рэмікс» па вул. Берута. У 12 гадзін 10 студзеня Зелянко, знаходзячыся ў офісе, размаўляў па тэлефоне з жонкай. Прыкладна ў гэты ж час бацька Зелянко бачыў сына і Андрушкевіча ў офісе. Пасля 13 гадзін у офісе ніхто па тэлефоне не адказваў. Іншых звестак сваякі не мелі.

Адной з найбольш верагодных была версія, што забойства ўчынена ў сувязі з камерцыйнай дзейнасцю Андрушкевіча і Зелянко.

У выніку вобыску ў офісе быў знойдзены кантракт, заключаны з мінскай фірмай «Марціка» на пастаўку мукі на суму 1 мільярд 40 мільёнаў рублёў, а таксама прыходны касавы ордэр на атрыманне фірмай «Марціка» ад Зелянко і Андрушкевіча больш як 800 мільёнаў рублёў. Устаноўлена, што кантракт быў унесены ў кнігу рэгістрацыі, але грошы не паступалі. Касавы ордэр аказаўся падробленым.

Дырэктарам фірмы «Марціка» з'яўлялася М. Алькевіч, яе намеснікамі — І. Кудраўцаў і А. Курыловіч, супрацоўнікамі — А. Шэлія, В. Шыдлоўскі і інш.

Напярэдадні новага года Алькевіч і Курыловіч звольніліся з «Марцікі». Потым яе ўзначаліў І. Кудраўцаў.

Аднак Курыловіч, які з'явіўся ў фірме ў жніўні 1995 года, вёў фінансавыя справы, прымаў наяўныя грошы ад кліентаў, а дагаворы заключаў ад імя Алькевіч, якая толькі намінальна была дырэктарам. Яна атрымлівала заработную плату, але ніякай кіруючай дзейнасцю і арганізацыяй работы не займалася. «Марціка» пастаўляла ў Рэспубліку Беларусь з Украіны цукар і муку, рэалізоўвала іх фірмам у Мінску і за межамі рэспублікі. Хоць Курыловіч фактычна з'яўляўся неафіцыйным кіраўніком «Марцікі», яго заявы аб прыёме на работу і аб звальненні ў дакументацыі фірмы адсутнічалі. Ніхто з супрацоўнікаў фірмы не меў звестак аб Курыловічу, яго месцы жыхарства. На допытах яны растлумачылі, што Курыловіч прыехаў з Масквы, дзе займаўся камерцыяй, жанаты, жонку завуць Алена, жывуць у раёне Камароўскага рынку ў Мінску. З Курыловічам звычайна звязваліся па яго сотавым тэлефоне, які быў аформлены на вадзіцеля Шыдлоўскага. Сам Шыдлоўскі таксама растлумачыў, што ніколі Курыловіча дадому не падвозіў, а звычайна той выходзіў з машыны ў раёне Камароўскага рынку, адкуль ён яго раніцай такім жа чынам забіраў і адвозіў на работу.

Усе справы, звязаныя з пастаўкай мукі, вёў асабіста Курыловіч. Пасля 12.01.96 Курыловіча і яго жонку ніхто з супрацоўнікаў «Марцікі» не бачыў.

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў высветлілася, што звестак аб Аляксандру Курыловічу і яго месцажыхарстве ў Беларусі няма. Разам з тым у раёне Камароўскага рынку па вул. Кульман, 28-117 была ўстаноўлена кватэра, якую здымалі грамадзянка Алена Зайцава з мужам. Пры вобыску ва ўказанай кватэры нічога цікавага не знайшлі. Аднак там была арганізавана засада і 17 студзеня затрымалі Алену Зайцаву, 1969 года нараджэння, якая пражывала ў г. Кіеве. У пашпарце меўся штамп ЗАГСа аб рэгістрацыі шлюбу з кіяўлянінам Станіславам Зайцавым.

У ходзе допытаў Зайцава растлумачыла, што разам з мужам выехала з Кіева, таму што іх праследавалі рэкеціры і пагражалі забойствам, таму яны змянілі месца жыхарства, пераехаўшы ў Мінск. Баючыся, што іх могуць знайсці і ў Мінску, муж уладкаваўся на работу пад выдуманым прозвішчам — Аляксандр Мікалаевіч Курыловіч. Дзе знаходзіцца муж цяпер, яна не ведае, ужо тыдзень яго не бачыла, думае, што ён паехаў па справах сваёй фірмы.

Аператыўнымі работнікамі правераны гэтыя паказанні. Адначасова запрасілі МУС Украіны.

Устаноўлена, што С. Зайцаў значыцца ў вышуку УУС Чарнавіцкай вобласці за крадзеж грашовых сродкаў у асабліва буйных памерах. Было прынята рашэнне аб яго затрыманні. Вядома таксама, што Алена Зайцава жыла з мужам у перыяд з 12 па 17 студзеня на іншай кватэры ў Мінску.

Неўзабаве Зайцава выехала з Мінска, узяўшы білет да Кіева, але ў дарозе выйшла ў Гомелі, дзе яе чакала машына, і знікла. У сувязі з гэтым ускладнілася далейшае расследаванне па справе і ўстанаўленне ўсіх удзельнікаў і абставінаў злачынства.

У ходзе неаднаразовых допытаў супрацоўнікаў фірмы «Марціка» стала вядома, што паміж Кудраўцавым, Курыловічам-Зайцавым і іх знаёмым прадпрымальнікам В. Сысоем (яго офіс знаходзіўся ў адным памяшканні з «Марцікай») адбылася размова, з якой вынікала, што яны 11.01.96, рухаючыся на машыне з прычэпам, трапілі ў аварыю. Быў устаноўлены знаёмы Кудраўцава — Н. Балтоўскі, які меў аўтамашыну «Опель-Кадзет-Караван». Пры аглядзе аўтамашыны Балтоўскага пад заднім сядзеннем і дыванкамі знойдзена мноства слядоў крыві.

Кудраўцаў і Сысой былі затрыманы. Пры наяўнасці неабвержных доказаў у ходзе допыту Сысой паказаў, што ён разам з Кудраўцавым і Курыловічам вывозіў трупы ў Вілейскі раён. Забойства ўчынена на кватэры яго бацькоў у Мінску па вуліцы Лынькова. Сысой таксама растлумачыў, што ён па просьбе Курыловіча каля 13 гадзін прывёз на кватэру бацькоў двух незнаёмых хлопцаў. Іх Курыловіч прадставіў камерсантамі. Потым туды ж адвёз Зелянко і Андрушкевіча, якіх ведаў па сумеснай рабоце.

Пры праверцы гэтых паказанняў высветлілася, што сярод знаёмых Сысоя, якіх ён выкарыстоўваў на падсобных работах у сваёй фірме, ёсць два хлопцы, раней судзімыя жыхары Мінска — Н. Мілянцоў і А. Пракаповіч, абодва 1971 года нараджэння, нідзе не працуючыя.

Праз пэўны час абодвух затрымалі. На допытах Пракаповіч даў паказанні аб абставінах злачынства і растлумачыў, што ён разам з Мілянцовым за 10 тысяч долараў ЗША згадзіўся забіць двух мужчын. Грошы абяцалі аддаць пасля забойства. Сысой перадаў ім зброю — два пісталеты «ТТ», адвёз на кватэру, куды потым прывёз пацярпеўшых. Пад пагрозай зброі яны прымусілі пацярпеўшых легчы на падлогу і застрэлілі іх. Аднак абяцанай узнагароды не атрымалі, таму што той, хто заказваў забойства, потым знік.

На жаль, арганізатару злачынства Курыловічу ўдалося пакуль схавацца. Цяпер праваахоўнымі органамі Расіі, Украіны і Беларусі разам праводзяцца мерапрыемствы па яго затрыманню.

Следствам таксама ўстаноўлена, што да канца снежня 1995 года Зелянко і Андрушкевіч перадалі Курыловічу асабіста ў лік пастаўкі мукі па заключанаму кантракту больш як 110 тысяч долараў ЗША. Паколькі пастаўкі мукі не было, пацярпеўшыя пачалі патрабаваць вяртання валюты. З мэтай завалодання ўказанай сумай Зайцаў-Курыловіч арганізаваў забойства, даручыўшы Сысою знайсці выканаўцаў, што той і зрабіў.

Такім чынам, у кароткі тэрмін цяжкае злачынства было раскрыта дзякуючы сумесным, старанна спланаваным следчым і аператыўна-вышуковым мерапрыемствам. Члены групы працавалі практычна кругласутачна, у тым ліку і ў выхадныя дні.

За паспяховае раскрыццё гэтага злачынства члены аператыўна-следчай групы заахвочаны.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора.**

## ВЫПАДКОВЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ КАШТУЮЦЬ ДОРАГА

**Грамадзянін Швецыі, уладальнік адной са стакгольмскіх фірмаў, які жыве ў сталічнай гасцініцы «Планета», вырашыў адпачыць у казіно.**

Там ён і пазнаёміўся з дзвюма прыгожымі дзяўчынамі. Каб прадоўжыць прыемнае знаёмства, прыйшлі ў нумар гасціннага шведа. Прыняўшы вялікую дозу спіртнога, гаспадар заснуў. А прачнуўшыся раніцай, не знайшоў мілага дуэта, які знік па-англійску, не развітаўшыся. Разам з ім зніклі залатыя ювелірныя вырабы, 1300 долараў ЗША, а таксама 1,5 мільёна рублёў.

**Павел ПРАТАСЕНЯ, БЕЛТА.**

## ПРЫГАВОР — ПАЗБАВІЦЬ ЗДАРОЎЯ

**Хворых на туберкулёз (у пераліку на душу насельніцтва) у месцах пазбаўлення волі ў 30 разоў больш, чым сярод законапаслухмяных магіляўчан. Сухоты ў «зонах» імкліва прагрэсіруюць: з 30 выпадкаў у 1993 годзе да 220 — у мінулым.**

Справа ў тым, што за калючым дротам і ў следчых ізалятарах вобласці знаходзіцца зараз 15 тысяч чалавек — удвоя больш, чым могуць прыняць гэтыя ўстановы. Да таго ж так званыя зэкі часта не маюць работы і адпаведнай магчымасці прыкупіць што-небудзь з ежы.

Паведамляючы пра гэта, штотыднёвік «Днепровская неделя» слушна заўважае: вядома, у ППУ — далёка не лепшыя члены грамадства, але прыгаворвалі іх да пазбаўлення волі, а не да пазбаўлення здароўя.

Медыкі, між тым, засцерагаюць, што пры такіх тэмпах развіцця каварнай хваробы наўрад ці ўдасца ўтрымаць яе ў рамках, абмежаваных турэмнымі сценамі.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# МАРЫХУАНА

**— Не навіна, што жаданне зарабіць лёгкія, а дакладней хуткія грошы, штурхае людзей на злачынства. Спакуса разбагацець імгненна перашкаджае глядзець на жыццё рэальна. Гэтаму ў пэўнай меры спрыяюць і рэаліі сённяшняга дня. А тое, што выраб і продаж наркатычных рэчываў дае велізарны прыбытак, пацвярджае наступны факт...**

**У горадзе Барысаве пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў былі затрыманы мясцовыя жыхары, у якіх было канфіскавана амаль 9 кг марыхуаны. Больш падрабязна пра гэты выпадак расказвае начальнік крымінальнай міліцыі Барысаўскага ГАУС Фёдар ПАДАБЕД.**

— У канцы студзеня-пачатку лютага гэтага года ў Барысаве адбыўся шэраг разбойных нападаў на камерцыйныя магазіны. Ва ўсіх гэтых выпадках было двое злачынцаў у масках і ўзброеных двухствольным абрэзам. Апошні такі выпадак адбыўся 15 лютага гэтага года. Пры адпрацоўцы версій аказалася, што злачынства маглі ўчыніць наркаманы. Калі далей пачалі адпрацоўваць гэтую версію, правяраць розныя прытоны, асоб, якія стаялі ў нас на ўліку, выйшлі на адзін прытон, дзе пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў былі затрыманы 3 чалавекі і канфіскавана марыхуана ў колькасці 8 кг 200 г. Пры далейшай праверцы было ўстаноўлена, што гэты наркотык паступіў у Барысаў з Казахстана. Везлі яго два чалавекі. Адзін — да Масквы, другі — да Барысава. Далейшы шлях гэтага наркотыка мы ўстанаўліваем, але хачу адразу сказаць тое, што па нашай інфармацыі гэтыя наркотыкі не паспелі разысціся. Той наркотык, які мы канфіскавалі (марыхуану), калі пералічыць на грошы — гэта прыкладна 16.500 долараў, сума салідная. Асобы, якія займаюцца гэтай справай, лічаць яе вельмі прыбытковай і ўсяляк імкнуцца прывезці наркотык і збыць яго, каб атрымаць нейкі «навар».

У гэтым годзе на асоб, якія збывалі наркотыкі, ужывалі іх, заведзена 10 крымінальных спраў. У параўнанні з мінулым годам адбыўся вельмі вялікі рост. Калі ў мінулым годзе было за ўвесь год усяго 18 такіх спраў, дык зараз — ужо 10.

На ўліку ў нашым ГАУС стаіць 50 чалавек, якія афіцыйна прызнаны наркаманамі і стаяць на ўліку ў наркадыспансеры, 20 чалавек таксама стаяць на ўліку, але яны ўжывалі наркотыкі перыядычна. Усяго, паводле нашых аператыўных даных, у горадзе каля 100 чалавек, якія ўжо ўжывалі нейкі від наркотыку.

Ёсць у нас, на жаль, і смяротныя выпадкі, якія звязаны менавіта з ужываннем наркотыкаў. Тры тыдні назад памёр малады хлопец, у 18-гадовым узросце.

**Аляксандр ПУГАЧ,**
**прэс-цэнтр Міністэрства ўнутраных спраў.**

*ЗДАРЭННІ*

## «ПАКАРАЦЬ СМЕРЦЮ НЕЛЬГА, ПАМІЛАВАЦЬ»

**Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, намеціліся пазітыўныя зрухі ў вырашэнні лёсу грамадзянкі нашай рэспублікі Аксаны Кайме, якая знаходзіцца ў ліванскай турме і лёсам якой займаецца консульскі аддзел Міністэрства замежных спраў Беларусі. Яна ўтрымліваецца пад вартай за забойства свайго мужа.**

Паводле даных, дыялог з уладамі Лівана аб яе перадачы беларускім праваахоўным органам вядзецца ўжо даўно. Больш таго, Міністэрства замежных спраў нашай рэспублікі звярнулася па дапамогу да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, які накіраваў асабістае пасланне прэзідэнту Лівана. Мяркуючы па ўсім, гэта стала важным момантам у вырашэнні лёсу грамадзянкі нашай рэспублікі, паколькі ўжо ў красавіку павінен адбыцца суд. Магчыма, будзе прызнана, што Аксана Кайме знаходзілася ў стане поўнай адсутнасці памяці, пасля чаго можна будзе ставіць пытанне аб яе вяртанні ў Беларусь. У іншым выпадку, згодна з ліванскім заканадаўствам, ёй пагражае пакаранне смерцю.

**БЕЛТА.**

## НАВОШТА ШВЕЙЦАРУ ПІСТАЛЕТ?

**Швейцар аднаго з гомельскіх піўбараў, калі там узнікалі нейкія спрэчкі паміж аматарамі спіртнога, якое тыя прыносілі з сабой, піва і тараноў, звычайна супакойваў іх грозным вокрыкам: «Маўчаць! А то выганю».**

І гэта дапамагала ў большасці выпадкаў. А найбольш нахабных папярэджваў: цябе што, уціхамірыць кулаком ці «пушкай»?

Аказваецца, швейцар не жартаваў. Бо заўсёды хадзіў пры самаробным пісталеце з наразным ствалом і патронамі да яго. Да таго часу, пакуль аднойчы вечарам гэта не выявілі работнікі міліцыі. Зараз швейцар дае тлумачэнні ў адпаведнай арганізацыі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## «АБУЛІ» ПРЭЗІДЭНТА ПРАМА Ў АКАДЭМІІ

**З тэрыторыі Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь зніклі 74 дзвярныя і аконныя блокі на суму каля 70 мільёнаў рублёў, якія належалі прэзідэнту беларускай вытворчай асацыяцыі «Белбудіндустрыя» Аляксею Беламу.**

Некалькі гадоў таму Аляксей Іванавіч па вуснай дамоўленасці з былым начальнікам МВВІВ генералам Осіпавым пакінуў у адным са сховішчаў вучылішча асабістую сталярку. Частку яе з армейскага склада А.Белы перавёз у свой уласны гараж яшчэ ў 1994 годзе, а калі нядаўна прыехаў за астатняй, яго таварыш-генерал толькі пацізнуў плячамі: ніякай сталяркі на складзе не было.

Ва ўсёй гэтай гісторыі здзіўляе, зрэшты, не толькі тое, што ўласнасць прыватнай асобы знаходзілася на тэрыторыі ваеннага аб'екта, але і тое, як і хто ўмудрыўся вывезці сталярку з тэрыторыі акадэміі, дзе існуе строгі прапускны рэжым.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## ГЭТАЯ «ТАБЛЕТКА» ВЫЙШЛА БОКАМ

**Спрацаваўшая ў начны час сігналізацыя ў краме змешаных тавараў в. Даньковічы Шклоўскага раёна прымусіла вартаўніка прыхапіць паляўнічую стрэльбу і паспяшыць да ахоўваемага аб'екта.**

На месцы ён убачыў у цемры постаці двух мужчын і пачуў трэск уваходных дзвярэй, якія ламалі. Яго вокліч застаў зламыснікаў знянацку і тыя паспрабавалі збегчы. Тады ў паветры прагучаў папераджальны стрэл, які, аднак, не астудзіў запалу ўцекачоў. Пасля гэтага прагучаў яшчэ адзін стрэл — на паражэнне. Адзін са злачынцаў з агнястрэльнай ранай у нагу быў дастаўлены ў бальніцу, другі затрыманы. Высветлілася, што зладзеі ў гэтую ж ноч укралі медыкаменты ў фельчарска-акушэрскім пункце гэтай жа вёскі. Абодва яны — раней судзімыя жыхары Магілёва.

**Віктар КУПРЭЕЎ,**
**прэс-група УУС Магілёва.**

## СЯМЕЙНАЯ ТРАГЕДЫЯ

Крывавая драма разыгралася ў нядзелю вечарам 10 сакавіка. У сваей кватэры, размешчанай па вуліцы Варвашэні ў Мінску, 37-гадовы капітан міліцыі, знаходзячыся ў нецвярозым стане, учыніў скандал са сваёй былой жонкай і 14-гадовым сынам. Ад пагроз экс-галава сям'і перайшоў да актыўных дзеянняў, пачаўшы іх збіваць. У час канфлікту яго сын, вучань 9 класа адной са школ, схапіўшы табельны пісталет бацькі, што ляжаў у крэсле, зрабіў некалькі стрэлаў. Ад атрыманых раненняў капітан па дарозе ў бальніцу памёр.

**Павел ПРАТАСЕНЯ, БЕЛТА.**

